ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№6 (147) чэрвень 2023 год

CATHOLICNEWS.BY


Смаргонь

## Інтэрв'ю з беларускім кругасветчыкам

Стар. 8




Віцебск

## Працэсіі Божага Цела вуліцамі беларускіх гарадоў


Глыбокае



Мінск


Гродна

# “На чэсць Пана”: Эўхарыстычная працэсія ў Віцебску

**Кульмінацыяй урачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста стала Эўхарыстычная працэсія, якая распачалася ўрачыстай імшой у катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага.**

■ **Таццяна Образава**, *тэкст*

Падчас гаміліі біскуп Алег Буткевіч падкрэсліў важную ролю працэсіі: “Езус прагне крочыць разам з намі па нашым жыццёвым шляху. І такая працэсія з’яўляецца своеасаблівым сведчаннем нашай веры. Езус хоча быць з чалавекам. Ён прагне міласэрнасці, а не ахвяры. Як вядома, чалавек па сваёй натуры рэлігійны. І ён прыносіць пэўную ахвяру ў імя Бога. І гэтай ахвярай павінна быць нашае жыццё. Жыць па-божаму, паступаць па-божаму, быць Божым чалавекам.

Гэта працэсія з’яўляецца праслаўленнем Бога. Шлях, якім мы пройдзем, будзе вобразам нашага шляху з Богам. І самае галоўнае, каб гэта было не толькі сімвалічна, але і каб мы імкнуліся жыць з Богам у сэрцы!”

Па традыцыі працэсія мела чатыры прыпынкі. Чатыры алтары, якія падрыхтавалі вернікі з адпаведных парафій. Каля кожнага алтара гучалі ўрыўкі з Евангелля. Затым біскуп усіх блаславіў Найсвяцейшым Сакрамантам. Удзельнікі працэсіі праз спевы і малітвы праслаўлялі моц і непераможнасць Бога.

Напрыканцы ўрачыстасці пастыр дыяцэзіі выказаў вялікую ўдзячнасць, перадусім Пану Богу, усім удзельнікам працэсіі: святарам, сёстрам законным, хору, дзецям, якія так прыгожа і старанна ўпрыгожвалі шлях Езусу. Падзяка гучала таксама і для ўсіх, хто прычыніўся да арганізацыі свята: дарожна-патрульнай службе, медыцынскім работнікам, супрацоўнікам радыё, бо дзякуючы ім горад мог пачуць Слова Божае. І, канечне, вернікам усіх парафій: Езуса Міласэрнага, Святой Барбары, Святога Антонія, Святога Духа, Святога Уладзіслава. Таксама біскуп Алег пажадаў усім радасці, супакою, любові, якія паходзяць ад Бога.

На вуліцах было шмат мінакоў. Многія з іх спыняліся, рабілі здымкі на свае смартфоны. Несумненна, іх спыняў Езус…

*Працяг на стар.13*


Стар. 3

## Манумент Арханёла Міхала асвечаны ў Навагрудку

## У якіх краінах святары абавязаны ісці ў войска?



Стар. 4

## Сямейны баль у Паставах

Стар. 10



# Папа сустрэўся з хворымі на анкалогію дзецьмі з Польшчы

**“Хачу запрасіць вас быць апосталамі Божай любові”, – звярнуўся Папа Францішак да хворых дзяцей, якія праходзяць лячэнне ва ўроцлаўскай анкалагічнай клініцы ў Польшчы. Сустрэча прайшла 29 мая ў Ватыкане.**

“Ваш жыццёвы шлях цяжкі, таму што вы павінны лячыцца, перамагаць хваробу ці жыць з хваробай, і гэта няпроста. Колькі разоў у жыцці мы трапляем у сітуацыю, калі ў нас няма сілы рухацца наперад. Але вы ніколі не самотныя! Езус заўсёды побач і кажа вам: “Ідзі, ідзі, ідзі! Я з табой… Я бяру цябе за руку”, – кажа Езус, як калі ты ў дзяцінстве вучышся рабіць першыя крокі”, – звярнуўся Папа да сваіх гасцей.


Падчас папскай аўдыенцыі для анкалагічна хворых дзяцей з уроцлаўскай клінікі

Ён параіў дзецям, каб у тыя хвіліны, калі ўзнікае пачуццё адзіноты і пакінутасці, яны не забываліся, “што Маці Божая заўсёды побач з намі, асабліва, калі адчуваецца цяжар хваробы з усімі яе праблемамі: яна побач, як была побач са сваім Сынам Езусам, калі ўсе Яго пакінулі. Марыя заўсёды побач з намі са сваёй матчынай пяшчотай”.



# Святы Айцец здзейсніць Апостальскі візіт у Манголію

**Папа здзейсніць візіт у Манголію, паведаміў 3 чэрвеня кіраўнік Залы Друку Святога Пасаду Матэа Бруні. Манголія стане 59-й краінай, якую наведае Папа Францішак.**

Афіцыйны прадстаўнік Святога Пасаду заявіў, што, “прыняўшы запрашэнне Прэзідэнта Манголіі і касцельных уладаў краіны, Папа Францішак здзейсніць Апостальскае падарожжа ў Манголію з 31 жніўня па 4 верасня 2023 года”. “Праграма і дадатковыя дэталі будуць паведамленыя ў найбліжэйшыя тыдні”, – дадаў ён.

Пра планы здзейсніць падарожжа ў Манголію Пантыфік казаў сёлета ў лютым, вяртаючыся з пілігрымкі ў Дэмакратычную Рэспубліку Конга і Паўднёвы Судан. Візіт адпавядае імкненню Папы наведваць геаграфічныя і экзістэнцыяльныя перыферыі.

Каталіцкая супольнасць у Манголіі з’яўляецца адной з самых малалікіх у Азіі: яна налічвае ўсяго каля 1400 вернікаў. На цяперашні момант там дзейнічае шэсць парафій.

Пасля абвяшчэння незалежнасці Манголіі ў 1921 годзе Святы Пасад заснаваў для мясцовай каталіцкай супольнасці місію sui iuris Знешняй Манголіі, якая праз некалькі гадоў была перайменаваная ў місію sui iuris Ургі. У 1924 годзе ў Манголіі быў усталяваны камуністычны рэжым, залежны ад Савецкага Саюза, які вёў жорсткую барацьбу з рэлігіяй.

Новы этап у гісторыі Касцёла ў Манголіі распачаўся ў 1990-я гады. У 1992 годзе Апостальская Сталіца і Манголія ўстанавілі дыпламатычныя адносіны. У 1996 годзе быў пабудаваны першы каталіцкі храм. У 2016 годзе з’явіўся першы мясцовы святар.

У 2002 годзе місія sui iuris Ургі была ператвораная ў Апостальскую прэфектуру Улан-Батара. На цяперашні момант яе ўзначальвае італьянскі кардынал Джорджыа Марэнга. Папа Францішак надаў яму кардынальскую годнасць зусім нядаўна – 27 жніўня 2022 года. 48-гадовы іерарх з’яўляецца самым маладым кардыналам у Касцёле. Яго сядзіба знаходзіцца ў катэдральным касцёле святых Пятра і Паўла ва Улан-Батары, асвечаным у 2003 годзе.

# ВДМ-23. В августе Папа Франциск посетит Лиссабон и Фатиму

**Директор пресс-службы Ватикана Маттео Бруни сообщил о поездке Папы Франциска в Португалию на Всемирный молодёжный форум, который в начале августа будет проходить в Лиссабоне.**

“По случаю следующего Всемирного дня молодежи, принимая приглашение гражданских и церковных властей Португалии, Его Святейшество Папа Франциск посетит Лиссабон со 2 по 6 августа этого года, совершив 5 августа визит в святилище Фатимы”, – заявил глава Зала печати Ватикана.

Святейший Отец во второй раз посетит богородичное святилище, которое ежегодно посещают тысячи паломников со всего мира. Впервые он побывал там в мае 2017 года по случаю столетия явлений Пресвятой Девы Марии в Кова-да-Ириа.

Молодёжная встреча в Португалии станет четвёртым Всемирным днём молодёжи с участием Папы Франциска после Бразилии (2013), Польши (2016) и Панамы (2019). Первоначально запланированный на 2022 год, из-за пандемии коронавируса День молодёжи в Лиссабоне был перенесён на август 2023 года.



В недавнем видеообращении к участникам португальского форума Епископ Рима отметил, что участие во Всемирном дне молодёжи – это прекрасно, и подготовка к нему проходит в радости: “Имейте надежду, потому что в такие дни человек сильно растёт. Мы не осознаём этого, но всё остаётся внутри. Приобретённые ценности, отношения с иностранной молодёжью, встречи – всё это остаётся в нас, и в первую очередь – увиденное свидетельство силы молодых людей. Церковь обладает силой юности. Так что вперёд!” – призвал юношей и девушек Епископ Рима.

*Старонка падрыхтаваная па матэрыялах беларускай рэдакцыі Vatican News*

# Дыкастэрыя па камунікацыі: дапаможнік па жыцці ў лічбавым свеце

**“Насустрач поўнай прысутнасці” – гэта новы дакумент ватыканскай Дыкастэрыі па камунікацыі, які прапануе душпастырскае разважанне пра ўзаемадзеянне людзей у лічбавай сферы.**

Тэкст, апублікаваны 29 мая, натхнёны прыпавесцю пра Добрага Самараніна. Ён мае на мэце распачаць сумесную рэфлексію для прасоўвання культуры “міласэрнага бліжняга” ў лічбавай сферы.

У кантэксце сацыяльных сетак, дзе людзі часта з’яўляюцца і спажыўцамі, і таварам, гэтае душпастырскае разважанне шукае адказу, заснаванага на веры. Пошук пачынаецца з распазнання стымулаў, якія мы атрымліваем, і ўважлівага слухання. Уважлівасць, разам з пачуццём прыналежнасці, узаемнасці і салідарнасці з’яўляецца стаўпом пабудовы пачуцця адзінства, што ў канчатковым рахунку павінна пашырыць магчымасці мясцовых суполак, дазваляючы ім стаць рухавікамі перамен.

Становячыся “ткачамі камуніі” праз творчасць любові, мы можам прадбачыць новыя мадэлі, заснаваныя на даверы, празрыстасці і інклюзіі, вучыцца прысутнічаць у стылі Бога і несці знак сведчання.

Дакумент вызначае некалькі падводных камянёў, якіх варта пазбягаць пры падарожжы па “лічбавых дарогах”: ад звядзення асобных карыстальнікаў да спажыўцоў і тавараў да стварэння “індывідуалістычнай прасторы”, нацэленай на аднадумцаў, якая стымулюе экстрэмальныя паводзіны. У падарожжы па сеткавым асяроддзі многія спазналі маргіналізацыю і пакуты. Перад хрысціянамі гэта ставіць пытанне: як мы можам зрабіць лічбавую экасістэму месцам абмену, супрацоўніцтва і прыналежнасці на аснове ўзаемнага даверу?

Чалавек становіцца бліжнім у асяроддзі сацыяльных сетак, калі ў ім узнікае гатоўнасць выслухаць, ведаючы, што тыя, каго ён сустракае ў інтэрнэце, з’яўляюцца рэальнымі людзьмі.

У нашым лічбавым падарожжы мы можам сустрэць іншых або ў духу абыякавасці, або ў духу падтрымкі і сяброўства, – адзначаецца ў новым дапаможніку. У апошнім выпадку мы, якія часам бываем Добрымі Самаранамі, а часам – параненымі, можам пачаць дапамагаць загойваць раны, створаныя таксічным лічбавым асяроддзем. Нам трэба аднавіць лічбавую прастору, каб яна стала больш чалавечнай і здаровай.

Хрысціяне прыўносяць у сацыяльныя сеткі своеасаблівы стыль, стыль дзялення, крыніцай якога з’яўляецца Хрыстус, Каторы палюбіў нас і аддаў Сябе за нас сваімі словамі, учынкамі, душой і целам. Ён вучыў нас, што праўда адкрываецца ў камуніі і што камунікацыя таксама вынікае з камуніі, гэта значыць з любові, – звяртаюць увагу аўтары разважання.

Прысутнасць хрысціян у лічбавай рэальнасці павінна насіць характар сведчання. Іх выпадковыя сустрэчы ў сацыяльных сетках мусяць стаць сустрэчамі з бліжнім, жыццё якога іх хвалюе, і, такім чынам, сустрэчамі з Панам.

# Пасланнік Папы Францішка асвяціў фігуру св. Арханёла Міхала ў Навагрудку

**У суботу, 3 чэрвеня, каля навагрудскага касцёла быў асвечаны манумент Арханёла Міхала. Урачыстасць узначаліў арцыбіскуп Антэ Ёзіч – Апостальскі нунцый у Беларусі – разам з біскупам Аляксандрам Кашкевічам, ардынарыем Гродзенскай дыяцэзіі.**

■ **Марына Раманчук**, *тэкст;* **Кірыл Масалыка**, *фота*

Святкаванне распачалося семінарам, прысвечаным Арханёлу Міхалу. Пасля прывітання ўсіх прысутных пробашчам парафіі кс. Юрыем Жэгарыным былі прачытаныя даклады. Першы даклад прадставіў а. Міхал Ярмашкевіч OP на тэму "Анёльскі свет паводле св. Тамаша Аквінскага", другі даклад – пра "Ушанаванне св. Міхала Арханёла ў духоўнай і культурнай традыцыі Беларусі" – прачытаў кс. д-р Віталь Сідорка.

Пасля семінара адбылася ўрачыстая св. Імша, узначаленая арцыбіскупам Антэ Ёзічам у прысутнасці ардынарыя Гродзенскай дыяцэзіі, святароў, гасцей, прадстаўнікоў гарадской улады Навагрудка, вернікаў парафіі св. Арханёла Міхала, а таксама дыяцэзіяльнага хору "Cantate Domino". У сваёй гаміліі Апостальскі нунцый прывітаў усіх прысутных: "Я вельмі рады, што магу ўзначаліць гэту літургічную цэлебрацыю ў старажытным навагрудскім касцёле ў гонар святога Арханёла Міхала. Дзякую пробашчу за запрашэнне адзначыць разам з вамі свята апекуна парафіі".

Арцыбіскуп, успамінаючы пачатак служэння Папы Францішка, распавёў, што "святы Арханёл Міхал таксама з'яўляецца апекуном Ватыкана, і святы Айцец Папа Францішак на пачатку свайго Пантыфікату пажадаў асвяціць статую святога Арханёла Міхала і змясціць яе ў Ватыканскіх садах" і дадаў, што "святы Арханёл Міхал, як паказвае Божае слова, з'яўляецца ўзорным змагаром са злым духам, што ёсць прычынай маральнага заняпаду і падзелаў. Ён належыць да Арханёлаў, каторых Слова Божае заўсёды апісвае нам як прыхільнікаў і слугаў Божых, як нябесных стварэнняў, што змагаюцца за справу Божую ў гэтым свеце і з'яўляюцца пасланцамі Усявышняга. Як вечныя прыхільнікі Бога, яны жывуць у радасці служэння Яму. Яны нясуць нам Яго жыццё, Яго супакой, бляск Яго прыгажосці, водар і чысціню Яго Боскай істоты".

Пасланнік Папы Францішка таксама сказаў пра сутнасць анёльскіх стварэнняў: "Анёлы ва ўсіх сваіх іерархіях ніколі не задавольваюцца пакланеннем і служэннем Богу. Падобным чынам усе мы, па просьбе саміх анёлаў, пакліканыя рэалізаваць сябе ў пакланенні, хвале і служэнні Пану, каб быць пасланцамі міру і місіянерамі Нябеснага Айца. Сапраўдны лек для нашых неспакойных і загубленых душаў, адзіны, здольны вылечыць нашы раны і вызваліць нас ад зла, знаходзіцца ў прысутнасці Бога, любячы Яго і дазваляючы Яму любіць нас у малітве Ягонай пяшчотай (...) Анёлы блізкія да нас і з'яўляюцца вялікімі і сапраўднымі сябрамі чалавецтва, якое пілігрымуе на зямлі, аж да таго, што тая самая малітва падкрэслівае: анёлы і людзі пакліканыя да супрацоўніцтва, каб прывесці Божы план збаўлення да спаўнення ў гісторыі. Знаходжанне ў небе, як гэта здараецца з анёламі, не азначае быць адарваным ці далёкім. Наадварот, гэта азначае быць там, дзе ўсё бачна і ўсё прынятае. Калі мы хочам клапаціцца пра зямныя рэчы, нам трэба паглядзець з вышыні, і тады мы зможам іх лепш зразумець".

Арцыбіскуп у сваіх словах наблізіў і растлумачыў постаць св. Арханёла Міхала: "Каб лепш зразумець, чаму ў многіх нашых супольнасцях святога Міхала Арханёла абралі апекуном, трэба задумацца, кім ён з'яўляецца і чым займаецца. Ён стаіць на чале нябесных войскаў і разам з імі змагаецца супраць таго, хто імкнецца разбурыць сям'ю Божую, народ, які верыць у Хрыста, каб прыцягнуць іх да свайго панавання і вырваць з сыноўства Божага. Жыццё і гісторыя з'яўляюцца вялікім полем бітвы, дзе д'ябал змагаецца супраць Бога і супраць справы адкуплення свайго Сына, Які заўсёды ўдзельнічае ў гісторыі, каб рэалізаваць новае стварэнне. Наяўнасць такога арханёла, як святы Міхал, у якасці заступніка – гэта дар, каторы трэбы прыняць, і адказнасць, каторую трэба ўзяць на сябе. (...) Арханёл Міхал, наш заступнік, дапамагае нам зрабіць так, каб чалавек ніколі не замяняў Бога і не дазваляў іншым ідалам заняць сваё месца".



Завяршаючы сваю гамілію, арцыбіскуп Ёзіч запрасіў усіх звярнуцца да Арханёла Міхала, "каб ён суправаджаў нас і дапамагаў на гэтым шляху, асабістым і супольным, падтрымліваючы нашае сінадальнае падарожжа і асабліва ажыўляючы веру, міласэрнасць і надзею ўсіх жыхароў гэтага старажытнага горада Навагрудка".

Пасля Найсвяцейшай Ахвяры св. Імшы адбыўся абрад асвячэння калоны і фігуры Міхала Арханёла і была прачытаная малітва аб заступніцтве над Беларуссю.

# Сгоревшая крыша Нотр-Дама восстановлена с помощью средневековых технологий

**Плотники восстанавливают своды собора Парижской Богоматери, пользуясь средневековыми инструментами и методами. Им приходится тесать сотни тонн дубовых балок топорами и попутно решать "множество головоломок".**

Если бы путешествия во времени были возможны, средневековые плотники наверняка поразились бы, наблюдая, как их отдаленные потомки пытаются возродить те технологии деревообработки, которые они применяли при строительстве несущих конструкций купола собора Парижской Богоматери более 800 лет назад. Нынешним плотникам приходится трудиться "по старинке", чтобы полностью восстановить уничтоженную пожаром главу всемирно известного памятника культуры и веры в подлинном виде. Они тоже то и дело поражаются и заходят в тупик, пытаясь применять инструменты, материалы и рабочие методы средневековой эпохи.

Реставраторы обдуманно выбрали ручные инструменты того времени для строительства свода, который пламя обратило в пепел в 2019 году. "Мы хотим восстановить собор точно такими способами и в том виде, какой он впервые обрел в средние века, – говорит Жан-Луи Жоржелин, отставной генерал французской армии, а ныне руководитель проекта реконструкции. – Тем самым мы проявляем должное уважение и храним верность великому искусству наших предков, которые построили все выдающиеся памятники во Франции".

Впрочем, работников подгоняет жесткий срок открытия собора (декабрь 2024 года), а потому плотникам и архитекторам все же приходится то и дело использовать методы компьютерного конструирования и некоторые иные современные технологии, чтобы ускорить процесс реконструкции.

Проект реконструкции свода крыши вышел на финишную прямую в начале мая, когда в мастерской в долине Луары на западе Франции проектировщики собрали и смонтировали главные несущие конструкции нового деревянного каркаса. Нагрузочные испытания (так называемый "холостой прогон") убедили архитекторов в том, что каркас соответствует всем условиям проекта. Теперь его предстоит собрать уже на венце собора.

Подсчитано, что для восстановления каркаса соборного свода пришлось срубить около 1200 деревьев. "Наша цель состояла в том, чтобы восстановить в первоначальном виде и состоянии деревянную каркасную конструкцию, сгоревшую 15 апреля 2019 года, – говорит архитектор Реми Фромонт, который предусмотрительно составил подробные чертежи подлинного каркаса в 2012 году, словно предвидел пожар. – Мы восстанавливаем деревянную каркасную конструкцию 13-го века во всех деталях. Применяем только тот же самый материал – дуб. Пользуемся строго теми же самыми инструментами и рычагами, применяем подлинные строительные технологии во всех мелочах. Очень скоро все элементы конструкции станут на свои места. Мы воспринимаем этот процесс как настоящее воскрешение святыни".




*Сибирская католическая газета*

# Не служыў – не мужык. У якіх краінах святары абавязаныя ісці ў войска?

**Наяўнасць святарскага сану, як выявілася, не заўсёды засцерагае яго носьбіта ад вайсковай службы. Часам і святароў могуць змусіць змяніць сутану на вайсковую форму. Мы вырашылі высветліць, як гэтае пытанне рэгулюецца на заканадаўчым узроўні ў тых краінах, дзе дагэтуль існуе вайсковы прызыў.**

22 траўня стала вядома, што на службу ў беларускае войска планавалі прызваць каталіцкага святара – 26-гадовага вікарыя парафіі святога Міхала Арханёла ў Навагрудку Дзмітрыя Мальца, які да таго ж апякуецца парафіяй у Любчы. Што цікава, прызваць яго планавалі менш чым за месяц да скранчэння прызыўнога ўзросту: 18 чэрвеня святару акурат 27 гадоў.

Ксяндза Дзмітрыя збіраліся прызваць у транспартныя войскі. З лідскага ваенкамата яго скіравалі ў Гродна. Але пасля публікацый у прэсе і малітваў святара паклалі ў шпіталь на абследаванне. А 31 траўня ён ужо вярнуўся ў парафію.

Паведамленні пра магчымасць прызыву ў транспартныя войскі з'явіліся і адносна праваслаўных святароў. Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Мітрапаліт Веніямін нават распарадзіўся знайсці замену для тых, хто падлягае прызыву. Пры гэтым навучэнцы духоўных ВНУ, але не выпускнікі, атрымалі адтэрміноўку ад войска.

Агулам на заканадаўчым узроўні ў Беларусі магчымасць для святароў не служыць у войску не прадугледжаная. Закон "Аб вайсковым абавязку і вайсковай службе" наўпрост абвяшчае, што "вайсковую службу выконваюць грамадзяне мужчынскага полу… незалежна ад… стаўлення да рэлігіі, роду і характару дзейнасці".

Тым не менш на практыцы святароў у Беларусі ўсё ж не прызывалі. Хіба толькі ў 2018 годзе быў створаны прэцэдэнт, калі праваслаўныя і каталіцкія святары атрымалі позвы з ваенкаматаў, але і тады гэтае пытанне ў выніку атрымалася развязаць.

**А як з прызывам у суседзяў?**

Агулам абавязковы вайсковы прызыў на сённяшні дзень мала распаўсюджаны ў свеце. Там жа, дзе ён ёсць, даволі часта святары маюць афіцыйную адтэрміноўку ад службы. Напрыклад, у 2012 годзе расійскі ўрад зацвердзіў адмысловыя Правілы надання святарам права на атрыманне адтэрміноўкі ад прызыву на вайсковую службу.

Галоўнай умовай надання адтэрміноўкі з'яўляецца наяўнасць духоўнага сану або звання. Адтэрміноўка даецца па спісах цэнтралізаваных структур рэлігійных арганізацый.

**Больш за тое, расійскія святары атрымалі ад Міністэрства абароны РФ адтэрміноўку ад службы ў войску на ўвесь час знаходжання ў святарскім сане і падчас мабілізацыі, абвешчанай увосень 2022 года.**

Аднак кіраўнік Рускай Праваслаўнай Царквы Патрыярх Кірыл падкрэсліў: гэтую адтэрміноўку трэба замацаваць на заканадаўчым узроўні.

"На жаль, у заканадаўстве адтэрміноўка ад мабілізацыі для прадстаўнікоў духавенства на сённяшні дзень не прадугледжаная. Пры гэтым святыя каноны Царквы строга забараняюць святарам паступаць на ваенную службу", – сказаў ён. Паводле яго, адпаведныя структуры РПЦ ужо займаюцца неабходнымі юрыдычнымі пытаннямі.

Маюць адтэрміноўку ад войска і святары ва Украіне. Яны атрымалі права на адтэрміноўку ад прызыву на тэрміновую ваенную службу і вызваленыя ад ваенных збораў згодна з законам "Аб вайсковым абавязку і вайсковай службе" (артыкулы 17 і 30). Але аналагічнай нормы ў дачыненні да іх падчас мабілізацыі няма. Таму гіпатэтычна ў выпадку мабілізацыі ва Украіне прызваць у войска могуць і святара. Раней гэтае пытанне часткова вырашалася тлумачэннямі Генеральнага штаба Узброеных сілаў. Пры гэтым у выпадку, калі правілы рэлігійных арганізацыяў забараняюць святарам браць у рукі зброю і прымаць непасрэдны ўдзел у ваенных дзеяннях, яны могуць скарыстацца правам на альтэрнатыўную (невайсковую) службу.

Ёсць і ва Украіне, і ў Расіі таксама адмысловыя вайсковыя капеланы, якія ў войску кантралююць маральны стан салдат, адпяваюць памерлых, садзейнічаюць эвакуацыі параненых і загінулых вайскоўцаў. Пры гэтым калі ў Расіі яны або афармленыя ў вайсковых частках як грамадзянскія спецыялісты (памочнікі ў працы з вайскоўцамі-вернікамі) або наогул не маюць пэўнага статусу,

**ва Украіне вайсковыя святары атрымліваюць афіцэрскія званні і грашовае забеспячэнне.**

Вызваляе закон ад вайсковага абавязку і святароў рэлігійных абшчынаў Літвы, прызнаных дзяржавай традыцыйнымі. Праўда, у 2017 годзе Міністэрства абароны краіны падрыхтавала папраўкі, якія б дазвалялі прызыў святароў падчас усеагульнай мабілізацыі – на пасады вайсковых капеланаў.




У Казахстане закон "Аб вайсковым абавязку і вайсковай службе" таксама ўстанавіў адтэрміноўку ад прызыву на вайсковую службу грамадзянаў, якія маюць духоўны сан або штатную пасаду ў зарэгістраваных рэлігійных аб'яднаннях на перыяд рэлігійнай дзейнасці ці атрымліваюць вочную адукацыю ў духоўных (рэлігійных) установах.

**Вызваляе асобаў, "якія маюць духоўны сан у адной з зарэгістраваных рэлігійных арганізацыяў, і закон Узбекістана "Аб усеагульным вайсковым абавязку і вайсковай службе".**

А вось у Грузіі сёлета якраз вырашылі абмежаваць правa святароў на адтэрміноўку. 4 красавіка мясцовы парламент у першым чытанні прыняў законапраект, згодна з якім цяпер адтэрміноўку здолеюць атрымліваць святары толькі Грузінскай Праваслаўнай Царквы – галоўнай канфесіі ў краіне. Усім іншым у якасці варыянту прапануецца невайсковая працоўная служба.

Такое рашэнне стала адказам на шматлікія адтэрміноўкі, што атрымлівалі прадстаўнікі, як заяўляецца, "фіктыўных" рэлігійных арганізацыяў. У прыватнасці, станам на чэрвень 2022 года правам адтэрміноўкі скарысталіся 13791 прызыўнікоў-святароў. З іх 12724 – прадстаўнікі "Хрысціянскай, евангелісцкай і пратэстанцкай царквы Біблейская свабода". Гэтую царкву стварыла адна з мясцовых палітычных партыяў з мэтай змагацца з абавязковай вайсковай службай.

**Калі наступны прызыў?**

Агулам у лютым – траўні 2023 года, паводле звестак Міністэрства абароны Беларусі, у прызыўныя камісіі планавалі выклікаць каля 40 тысяч маладых беларусаў ва ўзросце ад 18 да 27 гадоў, якія не мелі або ўжо страцілі права на адтэрміноўку. З іх непасрэдна на тэрміновую вайсковую службу і службу ў рэзерве збіраліся накіраваць каля дзесяці тысяч чалавек.

Наступны – восеньскі – вайсковы прызыў пачнецца ў жніўні і працягнецца да канца лістапада.

*Мечыслаў Гапановіч*

# 30-летие служения в России сестер Святой Елизаветы

**31 мая, в день важного для Конгрегации литургического торжества Посещения Пресвятой Девой Марией Елизаветы, региональная община Сестёр-Елизаветок отпраздновала 30 лет своего присутствия на территории Российской Федерации.**

Российский регион Конгрегации включает в себя Казахстан и Россию – это 8 общин и порядка 20 сестёр, причем сегодня в это число входят и 7 сестёр-монахинь из самой России.

А началось всё с того, что в памятном 1993 году несколько сестёр приехало в страну по приглашению тогда Апостольского администратора для католиков латинского обряда Азиатской части России Епископа Иосифа Верта.

Поэтому и нынче Владыка лично приехал поздравить с юбилеем новосибирскую общину сестёр. Ординарий Преображенской епархии возглавил торжественную Мессу, во время которой произнёс добрые и сердечные слова в адрес сестёр, особо подчеркнув радость за столь длительное и плодотворное совместное сотрудничество.



А на страничке Елизаветок во ВКонтакте появилось такое поздравление:

*– История пишется людьми. Наша история складывается из жизней десятков сестер, которые не побоялись и 30 лет назад вышли из самолета в Новосибирске. Другой климат, другие традиции, другое все. И именно благодаря им мы, молодые, сейчас здесь.*

*Кому-то из нас нет еще 30, но наши сестры верили, что пройдут годы и их станет больше.*

*Сегодня нам 30! И нас действительно стало больше! Мы рады заражать других той радостью, которую несла Мария, направляясь к Елизавете*

*С праздником нас!*

*sib-catholic.ru*



# На поўначы Аргенціны адкрылі самы высокі помнік Папу Францішку ў свеце

У Агіларэсе на поўначы Аргенціны адкрылі самы высокі помнік Папу Рымскаму ў свеце. Ён мае вышыню сем з паловай метраў, а вагу – восем тон.

Помнік прымеркаваны да першых дзесяці гадоў пантыфікату Папы з Аргенціны. Ён мае выгляд Святога Айца з паднятай рукой у прывітальным жэсце, з якім Пантыфік стаяў адразу пасля свайго абрання на балконе базылікі св. Пятра ў Ватыкане.

Да гэтага часу самая высокая статуя Папы Францішка была ў Сьюдад-Хуарэсе ў Мексіцы, але яна на тры метры меншая.

*pl.aleteia.org*
*пераклад **Марыны Ткач***

# “Малітва ў жыцці мужчыны”: рэкалекцыі ў Росі

**З 2 па 4 чэрвеня ў парафіі Святой Тройцы ў Росі адбыліся рэкалекцыі для мужчын на тэму “Малітва ў жыцці мужчыны”, паведамляе msj.by. Канферэнцыі чыталі айцец-дамініканін Віталь Сапега і псіхатэрапеўт Іван Пузанаў. У рэкалекцыях прынялі ўдзел мужчыны і юнакі з Мінска, Гродна, Браслава, Ваўкавыска, Ліды і Росі.**

“Кожны дзень мужчына выходзіць на духоўную барацьбу. Для таго, каб супрацьдзейнічаць спакусам і граху, ваяру патрэбныя дары Святога Духа, а таксама малітва. Малітва як індывідуальная, так і з усёй сям’ёй, асобна з жонкай, а таксама ў супольнасці вернікаў. Кожны павінен выпрацаваць і выбраць для сябе пэўны рытм малітвы на працягу дня, які будзе ўключаць чытанне Евангелля і разважанне над Божым словам. Было б нядрэнна, калі б вячэрняя малітва складалася з агляду дня, калі вернік правярае сябе, ці ўва ўсіх сітуацыях ён здзейсніў чын любові, і дзякуе Стваральніку за атрыманыя ласкі. Мужу веры рэкамендуецца выбраць святога, чый прыклад ён будзе наследаваць і чыё заступніцтва будзе заклікаць”.

Клінічны псіхолаг Іван Пузанаў прачытаў канферэнцыю “Адрозненні мужчыны і жанчыны”, у якой на прыкладах паказаў, чым вызначаецца праца органаў пачуццяў і іх рэакцыя на раздражняльнікі ў мужчын і жанчын.



Адзін з удзельнікаў рэкалекцый падзяліўся сваімі перажываннямі і ўражаннямі: “Рады, што трапіў на мужчынскія рэкалекцыі ў Росі. Сустрэча з іншымі мужчынамі, якія таксама знаходзяцца на шляху духоўнага развіцця, і шчырыя размовы з імі дапамаглі глыбей зірнуць на некаторыя з’явы штодзённага жыцця, лепш у іх разабрацца. У тым ліку паглядзець на адносіны паміж сябрамі-мужчынамі, на адданасць сваёй справе і шчырай працы, на стасункі ў сям’і, з жонкаю, з дзецьмі. Карысна было давецацца пра досвед іншых людзей, усвядоміць, што на некаторыя рэчы мы глядзім паіншаму. Але ёсць і тое, у чым мы сыходзімся. Я ўдзячны арганізатарам і тым, хто нас прыняў і на працягу гэтых дзён пра нас клапаціўся. Дзякуй вам вялікі за гасціннасць і дай вам Бог далейшых поспехаў!”

*Відэа з рэкалекцый:*



***Алесь Квіткевіч***

# З’езд салезіянскіх міністрантаў у Жупранах

**З 2 па 4 чэрвеня ў Жупранах адбыўся з’езд салезіянскіх міністрантаў. У ім прынялі ўдзел больш за 60 хлопцаў з салезіянскіх парафій у Мінску, Смаргоні, Бараўлянах, Дзятлаве і Жупранах. Месцам правядзення стаў аднаўлены дом для моладзевых акцый.**

З’езд распачаўся ў пятніцу, 2 чэрвеня. Хлопцы мелі магчымасць пазнаёміцца, добра разам правесці час, пагуляць у футбол і спецыяльна зарганізаваны лазертаг на панадворку моладзевага дому. Напрыканцы дня яны ўдзельнічалі ў адмысловай адарацыі і мелі магчымасць прыступіць да сакраманту пакаяння.

У суботу, 3 чэрвеня, міністранты выехалі ў Будслаў на заканчэнне навэнны з нагоды юбілею каранацыі цудадзейнага абраза Будслаўскай Багародзіцы. Там частка міністрантаў удзельнічала ў якасці акцёраў мініпрадстаўлення пра гісторыю Будслава, якое падрыхтавала салезіянская сям’я са Смаргоні. Пасля ўдзельнікі мелі магчымасць маліцца падчас Эўхарыстыі ў будслаўскай базыліцы, якую ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі. На св. Імшы прысутнічалі першакамунійныя дзеці з розных парафій Беларусі.



Пасля Імшы і абеду ўсе прысутныя ў Будславе дзеці маглі пазабаўляцца ля спецыяльна падрыхтаваных забаўляльных стэндаў, якія падрыхтавалі салезіянскія сем'і з Мінска і Бараўлян. Пасля вяртання ў Жупраны міністранты схадзілі ў паход у лес, дзе іх чакала падрыхтаваная гульня.

У нядзелю юнакі разам з адказным за з’езд кс. Артурам Ляшнеўскім SDB адсвяткавалі ўрачыстасць Найсвяцейшай Тройцы ў жупранскім касцёле святых Апосталаў Пятра і Паўла. Пасля Эўхарыстыі літургічная служба алтара разам з вернікамі ўдзельнічала ў тэафарычнай працэсіі вакол касцёла, а міністранты падчас шэсця неслі харугвы і касцельную літургічную атрыбутыку.

***Кс. Артур Ляшнеўскі SDB***



# СДМ у Лісабоне: вязні вырабілі 150 канфесіяналаў з экаматэрыялаў

**150 канфесіяналаў у спецыяльна абсталяваным “Парку прабачэння” будуць служыць дзеля таго, каб тысячы пілігрымаў, якія прымуць удзел у Сусветных днях моладзі ў Лісабоне, змаглі прыступіць да сакраманту пакаяння і паяднання.**

Вырабам канфесіяналаў займаліся зняволеныя з турмаў у Каімбры, Паса-дэ-Ферэйра і Порту. Гэтая ініцыятыва з’яўляецца вынікам супрацоўніцтва паміж галоўным упраўленнем рэінтэграцыі і пеніцэнцыярных службаў і Фондам СДМ у Лісабоне-2023.

У кожным канфесіянале святар будзе гатовы прыняць і выслухаць споведзь маладых пілігрымаў на розных мовах, каб яны маглі адчуць любоў і міласэрнасць Бога.

Канфесіяналы выкананыя з экалагічна чыстых матэрыялаў, а таксама прызначаныя для маламабільных груп насельніцтва. Напрыклад, сядзенні здымныя, каб пры неабходнасці размясціць інваліднае крэсла. Дызайн канфесіяналаў нагадвае тыповыя дамы асобных рэгіёнаў Партугаліі. Яны адкрытыя і маюць выяву крыжа і ружанца.

*CREDO са спасылкай на aleteia.org*
*Пераклад* ***Марыны Ткач***

# Мексика: пожилой мужчина напал на архиепископа с ножом



**80-летний мужчина 21 мая пытался убить католического архиепископа Дурангского Фаустино Армендариса. После воскресной мессы мужчина вошел в ризницу собора Непорочного Зачатия Девы Марии в городе Виктория-де-Дуранго с ножом в руках и напал на прелата.**

Попытка убийства не удалась, нападавший был арестован городской полицией. “Бог, Пресвятая Дева и святые мученики, чей праздник мы отмечаем сегодня, защитили меня от агрессии и сохранили невредимым и меня, и святость собора Дуранго, – написал архиепископ Армандарис в “Твиттере” вскоре после происшествия. – Да благословит Господь всех за слова солидарности и молитвы!”

Позже в разговоре с журналистами прелат рассказал, что разговаривал с кем-то в ризнице после Мессы, когда вошел неизвестный мужчина, спросивший, он ли епископ города, и напал на него. Армендарис увидел в руках нападавшего нож и “почувствовал боль”, когда тот кольнул его ножом в ребра. “Но я согнулся так, чтобы он не мог причинить мне вред, и оттолкнул его руку”, – рассказал прелат. Для архиепископа очевидно, что нападение на него было попыткой убийства. Нападавший не смог причинить ему вреда из-за своей физической слабости и “потому, что что-то трансцендентное защитило меня”, уверен Армендарис, который говорит, что молит Бога о своем обидчике.

*Благовест Инфо*

# Арыген

**Цяжка ўказаць на асобу, якая б мела такі вялікі ўплыў на хрысціянскую думку, філасофію і тэалогію, як Арыген. Адначасова цяжка знайсці на пачатку III ст. больш супярэчлівую постаць, чым Арыген.**



### Яму ад пачатку было нялёгка

Арыген паходзіў з Александрыі. Нарадзіўся ў канцы II ст. у грэцкай сям'і. Быў ахрышчаны ў дзяцінстве, што тады з'яўлялася, хутчэй, выключэннем, чым правілам, і ад пачатку выхоўваўся ў хрысціянскай веры.

У 202 г. падчас пераследу за веру, які пачаўся ў Александрыі, бацька Арыгена Леанід загінуў мучаніцкай смерцю, а сямейную маёмасць канфіскавалі. Так, будучаму вялікаму тэолагу амаль што ад нараджэння жыццё прыносіла горкія плады нягодаў і цярпенняў.

Гісторыя Касцёла даносіць нам звесткі, што сам Арыген па прыкладзе свайго бацькі хацеў здацца пераследнікам і прыняць мучаніцкую смерць. Аднак маці схавала ад Арыгена яго ўласную вопратку і такім чынам затрымала яго дома, пакуль імперскія чыноўнікі шукалі новых ахвяр. Ён выжыў падчас пераследу – і дзякуй Богу за гэта! Потым яго ўдзел у жыцці Касцёла быў значны.

### Спрэчны ўчынак

Арыген быў чалавекам вялікага аскетызму, глыбокай малітвы і багатага духоўнага жыцця. Ёсць шмат доказаў таго, што менавіта захапленне тэматыкай адрачэння ад свету дзеля здабыцця жыцця вечнага прывяло яго да ўчынку, які ў той час яшчэ не быў пад забаронай, хоць і лічыўся вельмі падазроным. Гаворка ідзе пра самакастрацыю, якая сёння цалкам забаронена Касцёлам.

Ад старажытных часоў вядомы стан еўнухаў (мужчын, пазбаўленых плоднасці), якія суправаджалі кіраўнікоў дзяржаў у іх справах. Фактычна кожны магутны кіраўнік, кароль ці імператар быў атачаны групай еўнухаў, якім даваралі важныя функцыі і заданні ў дзяржаве. Кіраўнікі не бачылі ў іх пагрозу, бо яны, нават у выпадку захопу дзяржаўнай улады, ніколі не змаглі б перадаць яе сваім нашчадкам. Менавіта еўнухаў меў на ўвазе Езус Хрыстус, калі казаў, што "ёсць скапцы, якія самі зрабілі сябе скапцамі дзеля Валадарства Нябеснага" (Мц 19,12). Многія хрысціяне тлумачылі гэты ўрывак Святога Пісання літаральна ў кантэксце прысутнасці еўнухаў пры імператарскіх дварах. Антычны свет ведае такую з'яву, як хрысціянскія кастраты. Але яна мела месца не толькі ў хрысціянстве. У іншых рэлігіях таксама падобнае практыкавалася.

**Ёсць шмат прыкмет таго, што Арыген сапраўды здзейсніў фізічную самакастрацыю.**

Вядома, гэта спрэчная тэма для хрысціянскага вучэння. Каталіцкі Касцёл рознымі канонамі забараніў пазбаўленне сябе плоднасці, а таксама забараніў удзяляць пасвячэння, асабліва святарскага і біскупскага, мужчынам, якія паддаліся кастрацыі.

Гэты неаднназначны факт, вядома, не прамовіў на карысць Арыгена ў будучыні. Але калі разглядаць учынак Арыгена ў моманце, калі той прыняў такое рашэнне, то ён яшчэ не лічыўся асуджальным. Хоць у тэкстах Арыгена мы знаходзім знак таго, што з часам ён зразумеў сваю памылку. Урывак Евангелля, прыведзены вышэй, трэба было разумець перш за ўсё не літаральна, а алегарычна, і ўстрымлівацца ад фізічнай самакастрацыі.

### Настаўнік і кіраўнік Александрыйскай школы

Арыген з самага пачатку прысвяціў сябе вывучэнню Святога Пісання і набыў вялікі філасофскі і тэалагічны досвед. Ён вывучаў філасофію ў выбітнага александрыйскага настаўніка Амонія Сакаса. Таксама магчыма, што ён вучыўся ў Плоціна, пазнейшага заснавальніка неаплатанізму. Мы бачым, што з самага пачатку Арыген вёў вельмі жывы дыялог з язычніцкім светам, цікавячыся грэцкай філасофіяй. Разам з тым, ён спрабаваў данесці хрысціянскую філасофскую думку да навуковага свету тагачаснай Александрыі.

Навуковы талент Арыгена даволі хутка быў заўважаны ў Касцёле. Малады чалавек становіцца настаўнікам для многіх хрысціян, але таксама хутка ўступае ў канфлікт з касцельнай іерархіяй. Біскуп Дзімітрый, які спачатку прызначыў яго настаўнікам і кіраўніком Александрыйскай тэалагічнай школы, з часам усё менш прыхільна глядзеў на маладога, таленавітага, пабожнага чалавека, які, доўгі час застаючыся асобай свецкай, меў вялікі аўтарытэт. Трэба заўважыць, што Арыген кіраваў вядомай на той час навучальнай установай, каторай перад ім кіравалі такія вядомыя тэолагі, як Пантэн і Клімэнт.

### Рэлакацыя ў Палесціну і адкрыццё новай школы

У 30-х гг. III ст. Арыген пераехаў з Александрыі ў Палесціну. Нам не зусім зразумела, чаму ён гэта зрабіў. Магчыма, праз пераслед, які ўспыхнуў у той час, а магчыма, па прычыне праблем ва ўзаемаадносінах з касцельнай іерархіяй, што тады мелі месца. У Цэзарэі Палесцінскай ён быў прыняты вельмі годна. У гэтым горадзе для Арыгена стварылі цэлую майстэрню, каб вядомы настаўнік мог дыктаваць свае кнігі, якія з'яўляюцца каментарамі да Святога Пісання. Там жа яго схілілі да прыняцця прэзбітарскага пасвячэння, на што ён, вядома, згадзіўся.

**Калі Арыген вярнуўся ў Александрыю ў якасці святара, канфлікт з мясцовым біскупам Дзімітрыем яшчэ больш абвастрыўся.**

Урэшце, склікаы біскупам Дзімітрыем сінод асудзіў паводзіны Арыгена, які быў пасвечаны насуперак закону не сваім, а іншым біскупам. Гэта прымусіла Арыгена тэрмінова пакінуць родны горад і пасяліцца ў Палесціне.

У Цэзарэі ён заснаваў уласную тэалагічную школу, дзе выкладаў амаль да канца свайго жыцця. Таксама Арыген вёў ажыўленую літаратурную дзейнасць. Ён так шмат напісаў, што, як сцвярджаў іншы вядомы айцец Касцёла Геранім, ніхто з нас не змог бы ўсяго гэтага прачытаць. Ён каментаваў кнігі Святога Пісання, вёў палеміку з ворагамі хрысціянства, пісаў філасофскія творы.

### Напрыканцы жыцця

Арыген памёр, маючы прыблізна 70 гадоў жыцця, як вызнаўца (мучанік, што прайшоў праз катаванні, але не памёр непасрэдна праз іх). У выніку пераследу пры імператару Дэцыю ён быў заключаны ў турму і падвергнуты вельмі жорсткім катаванням, а затым адпушчаны на волю. Пасля гэтага ён ужо ніколі не змог акрыяць. Катаванні і зняволенне знясілілі яго настолькі, што Арыген неўзабаве памёр.

Літаратурная спадчына Арыгена не дайшла да нашых часоў цалкам. Многія арыгінальныя грэцкія тэксты, на жаль, былі страчаныя. Мы ведаем многія з тэкстаў Арыгена толькі з лацінскіх перакладаў, галоўным чынам Руфіна з Аквілеі, але вялікая колькасць гэтых твораў захавалася ў арыгінале або ў свядомасці тых, хто чытаў яго тэксты.

### Арыгеніцкія спрэчкі і "рэнесанс" Арыгена

Арыген спакусіўся на некаторыя тэалагічныя гіпотэзы (напрыклад, тэорыі апакатастазісу, або "пустога пекла"), якія сталіся асновай для пазнейшага (VII ст.) асуджэння Арыгена і яго вучэння падчас т.зв. "арыгеніцкіх спрэчак". Як аказалася, "падстаўлі" настаўніка яго ж вучні. Яны прывялі тэалагічную думку Арыгена да такой крайнасці, што ў Касцёле яна ўжо лічылася ерассю. Арыгена абвінавацілі ў памылках, дапушчаных яго вучнямі. Гэта прымусіла навукоўцаў цэлымі стагоддзямі разглядаць Арыгена як падазронага настаўніка, як таго, хто дапусціў шмат памылак у сваіх тэкстах. Тады не лічылася добрым тонам цытаваць Арыгена. Тэолагам дзеля захавання добрага імені трэба было трымацца на адлегласці ад гэтага чалавека.

Аднак нядаўняе паглыбленае даследаванне твораў Арыгена дазволіла нам вызначыць наступную розніцу паміж яго тэкстамі:

1) тое, што ён лічыў праўдай, у якую верыць Касцёл; 2) тое, што ён называў уласнай гіпотэзай.

Гэта дазваляе не ўспрымаць думкі, якія ён падаваў толькі як навуковыя гіпотэзы, як прапановы занадта сур'ёзна. Мы дапускаем, што ён зрабіў некаторыя тэалагічныя памылкі. Аднак мы самі будзем памыляцца, калі ацэнім яго з перспектывы XXI ст. (памылка анахранізму). З іншага боку, тое, што Арыген сапраўды даў Касцёлу вучэнне аб духоўным жыцці, каментарыі да Святога Пісання і інш., з'яўляецца каштоўным скарбам тэалогіі і няспынна цытуецца папамі і тэолагамі. І гэта дазваляе Арыгену перажываць своеасаблівы рэнесанс у наш час.

*Кс. Павел Эйсмант*

# Капліца ў Віцебскай абласной клінічнай лякарні

**Святая Імша там цэлебруецца кожную трэцюю сераду месяца а 16.00**
(г. зн. 21 чэрвеня, 19 ліпеня і г.д.).
Па просьбе пацыентаў і індывідуальнай дамоўленасці са святаром святая Імша можа быць адпраўлена ў іншы дзень і час.
Капліца знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.
***Кантакты:***
***+375 29 785-12-98 – кс. Генадзь***
***+375 29 597-32-01 – Марыя***

# Супольнасць неідэальных

**Усё больш маіх знаёмых, з якімі некалі наведвалі заняткі па катэхезе ці проста бачыліся заўсёды ў касцёле, перастаюць хадзіць у святыню.**

Я заўжды ведала, што шмат хто адыдзе: нехта возьме шлюб з праваслаўным у царкве ці ажэніцца з нявернiцай, страціць жаданне, вырасце з "моладзевай тусоўкі", заблукае ў вялікіх гарадах або перастане наведваць Імшы, бо бацькі ўжо не цягнуць за сабой. Безумоўна, я маю і такіх знаёмых, але гэта хіба адзінкавыя выпадкі.

**Найбольшы працэнт тых, хто адышоў ад Касцёла, – гэта людзі, што не ходзяць на Імшы праз святароў.**

Увесь час мы чуем адныя і тыя самыя фразы, чаму святары дрэнныя, што кепскага яны робяць (нават калі гэта звычайныя чалавечыя рэчы кшталту сквернавання з алкаголем).

Мне было (часамі і ёсць) крыўдна, што я ведаю так шмат добрых святароў, якіх слухаеш з захапленнем, якія маюць вялікі досвед у сваім служэнні, але трапляюць разам з усімі ў спіс "дрэнных".

Але варта памятаць, што ў Касцёл мы прыходзім не дзеля святара, а дзеля Таго, Хто схаваны ў табернакулюме. Ён – цэнтр кожнай Імшы, Ён адпускае грахі і Ён збаўляе. Святары будуць увесь час змяняцца, а Эўхарыстыя застанецца той самай.

Для тых, хто перастаў хадзіць, параю адно: хадзіце ў іншую святыню ці на Імшы да іншага святара. Яны такія самыя людзі. Ні ж не перастаём хадзіць ва ўсе крамы, калі ў адной нам нахамілі?..

А што рабіць, калі не ведаеш, як вярнуцца? Касцёл – гэта супольнасць неідэальных людзей. І ў гэтай супольнасці ёсць месца для кожнага. Мы ніколі не даведаемся, што на сэрцы ў чалавека, з якім сядзім на адной лаўцы, і калі апошні раз быў у споведзі чалавек, каторы наступны ў чарзе да канфесіянала. Можа, менавіта гэтыя людзі пяць гадоў таму адышлі, а сёння вырашылі вярнуцца.

Мы тыя, хто ўвесь час будуе Касцёл, таму павінны навучыцца будаваць яго адкрытым для ўсіх. Мы павінны ствараць такую атмасферу, каб людзі прыходзілі, вярталіся. Лепш мы будзем радавацца, што нашая супольнасць папаўняецца, чым пачнём асуджаць мінулыя ўчынкі людзей.

Касцёл – гэта дом для кожнага, тут гаспадар – Хрыстос. Ён запрашае і чакае. Будзем жа памятаць пра гэта і вучыцца будаваць супольнасць вакол Яго!

*Яна Чайко*

# Ксёндз-канонік Уладзіслаў Завальнюк маліўся з глыбачанамі падчас парафіяльнага фэсту

**Ва ўрачыстасць Святой Тройцы, 4 чэрвеня, у Глыбокім адбылася адпустовая святая Імша.**

**Вікторыя Філіпенка**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Прыгажосць і атмасферу фэсту стваралі маленькія і вялікія ўнёскі кожнага з вернікаў: першакамунійныя дзеці, якія сваімі белымі строямі дадавалі сапраўднага святочнага настрою, быццам рыцары Хрыста, паслугоўвалі святарам пры алтары, хор "Ave Maria", які ўпрыгожыў урачыстасць спевамі.

Госцем свята стаў ксёндз-канонік Уладзіслаў Завальнюк – пробашч мінскай парафіі Святых Сымона і Алены, які нёс служэнне ў Глыбокім у 1985-1990 гадах.

На самым пачатку святой Імшы пробашч кс. Мікалай Ціхановіч прывітаў прысутных вернікаў, законных сясцёр і святароў, сярод якіх быў і айцец-тэатынец Аляксандр Івашчонак, які вырас у глыбоцкай парафіі, а сёння нясе служэнне ў італьянскім Неапалі.

Падчас казання кс. Уладзіслаў прапанаваў паглядзець на Святую Тройцу праз прызму Найсвяцейшай Панны Марыі. "Праслаўляць Найсвяцейшую Тройцу мы можам найперш знакам крыжа. Такая простая, але такая моцная малітва, у якой мы звяртаемся да Бога Айца, Сына і Духа Святога. Гэтай малітвай мы распачынаем свой дзень, любую малітву і любую працу", – зазначыў ксёндз-канонік.

Таксама святар звярнуў увагу на абраз Святой Тройцы, што знаходзіцца ў галоўным алтары глыбоцкай святыні, і ўзгадаў, як у далёкім ужо 1985 годзе адбылося яго асвячэнне. "На гэтай іконе мы таксама бачым Маці Хрыста, Якая быццам бы аб'ядноўвае ўсе Боскія Асобы".

Ксёндз Уладзіслаў таксама распавёў глыбачанам пра перэгрынацыю ікон з выявамі Багародзіцы з усіх беларускіх санктуарыяў.

Пасля Імшы адбылася ўрачыстая працэсія па галоўнай плошчы горада. Гэта быў сапраўдны трыумф Езуса Хрыста, Якому кожны з прысутных вернікаў аддаваў хвалу ў спевах і сведчыў пра сваю веру.

Скончылася ўрачыстасць хрысціянскім гімнам "Цябе, Бога, праслаўляем" і блаславеннем Найсвяцейшым Сакрамантам.



# Перэгрынацыя рэліквій блаславёных сясцёр-мучаніц з Навагрудка

**4 чэрвеня ва ўрачыстасць Святой Тройцы парафію Святой Сям"і і Святога Юрыя ў вёсцы Барсукі наведалі сёстры з Кангрэгацыі Святой Сям"і з Назарэта с. Філатэя Ціхановіч, с. Кляра Волчэк і с. Лаура Шукеловіч з Гродна.**

**Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Пробашч парафіі кс. Юрый Бараўнёў сардэчна прывітаў гасцей і ўзначаліў урачыстую святую Імшу. Сястра Лаура Шукеловіч пазнаёміла парафіян з гісторыяй жыцця сясцёр-назарэтанак у Навагрудку і іх свядомай ахвярай свайго жыцця дзеля выратавання ад смерці 120 чалавек, арыштаваных фашыстамі і прысуджаных да расстрэлу. Таксама манахіні ахвяраваліся за ксяндза Аляксандра Зянкевіча, адзінага святара ва ўсёй акрузе. 1 жніўня 1943 г. 11 законніц з Кангрэгацыі Святой Сям"і з Назарэта былі расстраляныя ў Батароўскім лесе каля Навагрудка. Ахвяра сясцёр была прынятая Богам: усе, за каго сёстры склалі дар свайго жыцця, засталіся жыць. Гэтая ахвяра стала дапаўненнем той любові да Бога і людзей, якую выказвалі назарэтанкі ў сваім штодзённым жыцці.

Езус Хрыстус сказаў, што няма большай любові за тую, калі хтосьці аддае сваё жыццё за іншага чалавека. Мучаніцы-назарэтанкі былі беатыфікаваныя Папам Янам Паўлам II 5 сакавіка 2000г. Літургічны ўспамін блаславёнай Марыі Стэлы і яе дзесяці паплечніц адзначаецца 4 верасня.



Сёстры заахвоцілі маліцца за сем"і праз заступніцтва бласлаўлёных сясцёр-назарэтанак. Гэта вельмі важна, бо сённія сем"і знаходзяцца ў небяспецы, перажываюць розныя крызісныя сітуацыі. Таксама вернікі ўзносяць да іх малітвы за святароў, паколькі перад расстрэлам манахіні маліліся за святара, які застаўся жывым. Ксёндз Юрый Бараўнёў нагадаў, што менавіта 4 верасня ён стаў святаром.

Пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце вернікі памаліліся Літаніяй да бл. Марыі Стэлы і дзесяці яе паплечніц – мучаніц з Навагрудка. Пасля прысутныя мелі магчымасць ушанаваць рэліквіі блаславёных назарэтанак.

У гэты ж дзень сёстры-назарэтанкі пабывалі ў парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы ў Порплішчы і ў парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Крулеўшчыне.





# Байкеры распачалі мотасезон з малітвы ў браслаўскім санктуарыі

**28 мая, у нядзелю Спаслання Святога Духа, у санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў адбылося адкрыццё мотасезону, паведамляе** ***waladarka.by.***

Падчас сустрэчы каля будынка айца Ярдана стаяла 70 матацыклаў. Байкеры прыехалі з розных куткоў Віцебскай вобласці і з Мінска.

Адбыўся канцэрт, падрыхтаваны парафіяльнай моладдзю. Ксёндз Уладзімір Шыдлоўскі SDS блаславіў матацыклістаў і асвяціў іх транспартныя сродкі. Пасля супольных размоваў многія прынялі ўдзел у парафіяльнай святой Імшы, падчас якой прасілі Бога пра бяспечныя паездкі для ўсіх матацыклістаў.

Такія сустрэчы сталі ўжо традыцыяй і з'яўляюцца добрай магчымасцю пазнаёміцца і прысвяціць Богу свае падарожжы.

***Людміла Бурлевіч****, тэкст*
***Ірына Гайдамовіч****, фота*



# Персанальная выстава "Крылатыя фарбы Браслаўшчыны" святара з Друі

**У Браславе 3 і 4 чэрвеня праходзіла міжнароднае свята традыцыйнай культуры "Браслаўскія зарніцы – 2023", паведамляе** ***vitvesti.by.***

Заўсёды ладзяцца шматлікія конкурсы, творчыя спаборніцтвы і паказы прафесійных і самадзейных артыстаў. На два дні горад становіцца вялікай пляцоўкай, дзе кожны знаходзіць занятак па душы.

Фестываль адкрыўся персанальнай выставай "Крылатыя фарбы Браслаўшчыны" ксяндза з Друі Сяргея Сурыновіча. Святар – рознабакова таленавіты чалавек, піша вершы, карціны, праводзіць міжнародныя пленэры мастакоў. "Зарніцы" далі магчымасць пазнаёміцца з яго новымі работамі шырокаму колу гледачоў.

Наведаць выставу можна да 16 ліпеня.



# Беларускі кругасветчык: “Самыя гасцінныя святары – у Замбіі і Новай Гвінеі”

**Два падарожжы вакол свету за апошнія дваццаць гадоў здзейсніў Аляксей Язылец з Мядзела (Мінская вобл.). У вандроўках мужчына праводзіць ад шасці да васьмі месяцаў, а здараецца, і круглы год. У вольны ад падарожжаў час ён працуе гідам у краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.**

На дадзены момант Аляксей наведаў сто тры краіны. Большасць шляху – гэта аўтаспын, часам – гідраспын і пералёты. Калейдаскоп уражанняў у чалавека неабсяжны: ад назіранняў за сотняй гіганцкіх чарапах на Галапагоскіх выспах, дзе Дарвін адкрыў сваю тэорыю, да ўдзелу ў св. Імшы ў Сірыі на арамейскай – мове, на якой размаўляў Хрыстос.

**– Аляксей, падзяліцеся, калі ласка, каторае з усіх падарожжаў узгадваеце як найбольш экзатычнае?**

– Такіх вандровак шмат. Напрыклад, у 2019 годзе ў калядны перыяд я адправіўся караблём з выспы Ява на выспу Новая Гвінея. За восем дзён перасёк пяць мораў, акіян. Беларускі пярэдадзень Новага года сустракаў у кабіне капітана – гэта была шостая раніцы мясцовага часу, якраз узыходзіла сонца. Моцна ўразіла само падарожжа па заходняй частцы Папуа Новай Гвінеі. Трапіў у вёску, дзе людзі жывуць практычна першабытным ладам. Жанчыны амаль неапранутыя. Мужчыны носяць толькі катэкі (*катэка – своеасаблівы футурал для палавога органа, які традыцыйна носяць мужчыны некаторых этнічных груп у Новай Гвінеі, каб прыкрываць геніталіі* – заўв. аўт.). Дарослыя займаюцца збіраннем агародніны і садавіны.

**Мяне запрасілі на пачастунак у будыначак з саломы, дзе гаспадар у імгненне вока распаліў вогнішча без запалак і запальнічкі.**

На жаль, няведанне мовы – а іх на выспе каля двухсот – перашкодзіла даведацца падрабязна пра мясцовых жыхароў. Затое мне давялося спыніцца ў гасцях у ксяндза – у самым цэнтры Новай Гвінеі (*каталікі на выспе складаюць 30 % насельніцтва* – заўв. аўт.). На нядзельную св. Імшу сабралася вялікая колькасць людзей – усе яны адмыслова апрануліся, каб прыгожа выглядаць. А пэўны сталы чалавек прыйшоў толькі ў кашулі і ...катэцы – гэта рабіла дзіўнае ўражанне... Нягледзячы на значныя адлегласці паміж святыняй і вёскамі, папуасы знаходзяць час, каб прыходзіць у касцёл. Некаторыя пераадольваюць пешшу больш за дзесяць кіламетраў. У нашым заходнім свеце мы часта скардзімся, што нічога не паспяваем, а ў Папуа кажуць: *"Вы маеце гадзіннікі, а мы – вольны час".*

**– Вам даводзілася пабываць і ў гарачых кропках свету, і ў дзікай прыродзе. Ці здараліся рызыкоўныя сітуацыі, пасля выхаду з якіх Вы можаце сказаць: "Гэта быў Божы Провід!"?**

– На той жа выспе Новая Гвінея мы разам з сёстрамі-францішканкамі вырашылі паплысць лодкай па возеры, каб дасягнуць аддаленых папуаскіх вёсак. Набліжаючыся да селішча, мы ўбачылі, як з берага людзі пагражаюць нам і паказваюць, каб уцякалі адсюль. Калі вярнуліся назад, у горад, то сустрэлі вайскоўцаў, каторыя сказалі, што калі б мы сустрэлі прадстаўнікоў гэтага племені на вадзе, то яны пачалі б страляць у нас з лука. Я таксама атрымаў паведамленне ад сваіх сяброў, што гэтыя папуасы ўзялі іх у палон і хацелі забіць, але войска вызваліла. Аказалася, што племя лічыць бераг святым і не прымае, калі іншаземец знаходзіцца на іх тэрыторыі.

**– Падчас вандровак Вы ўваходзіце ў цесны кантакт з мясцовымі: назіраеце розныя светапогляды, ідэі, веравызнанні. Ці не ўзнікаюць сумневы адносна Вашых хрысціянскіх перакананняў?**

– Калі ўласныя погляды, думкі сфармаваныя, то можна спакойна слухаць меркаванні іншых і пры гэтым заставацца пры сваіх. На маю веру паўплываць складана.

Бог нас вучыць любіць свет, паважаць іншых і сябе. Таму з прадстаўнікамі іншых культур я паводжу сябе належным чынам. Стаўлюся да людзей так, як хацеў бы, каб яны ставіліся да мяне.

**– А хто з людзей, з якімі Вам давялося паразмаўляць, уразіў Вас як пэўны духоўны аўтарытэт?**

– Мяне прывялі ў захапленне святары ў Замбіі і Новай Гвінеі – самыя гасцінныя ў свеце. Я таксама некалькі разоў ездзіў у Лондан, дзе сустракаўся з а. Аляксандрам Надсанам (*беларускі грэкакаталіцкі святар, апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў у замежжы – заўв. аўт.).* Размовы з айцом запалі мне глыбока. Я захапіўся ягонай нацыянальнай свядомасцю, ахвярнасцю, клопатам пра беларускую спадчыну. Дзякуючы яго намаганням у Лондане паўсталі бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны, адкрытыя для ўсіх, хто цікавіцца беларусістыкай. З а. Аляксандрам мы шмат размаўлялі пра гісторыю беларусаў і беларускай эміграцыі. Але больш за ўсё мне запомніліся ягоныя духоўныя настаўленні: "Трэба сумленна выконваць свае абавязкі ў грамадстве. Выкарыстоўваць фізічныя і духоўныя якасці, якімі надзяліў Бог, дзеля дапамогі Беларусі. Выпрабаванні, якія сустракаюцца на шляху, – прымаць, але памятаць, што Госпад вядзе нас па жыцці".

**– Вам давялося трапіць на адкрыццё Святых Дзвярэй у базіліцы св. Пятра ў Ватыкане ў Год Міласэрнасці. 24 снежня Вы ўдзельнічалі ва ўрачыстай св. Імшы ў базіліцы Нараджэння Хрыста ў Бэтлееме. Якія яшчэ назіралі важныя для хрысціянскага свету падзеі?**

– Толькі дзякуючы Богу трапіў на святочную Літургію ў Бэтлееме, бо праход у храм адбываўся толькі па папярэднім запісе. Безліч людзей з усяго свету!.. Шмат відэакамер – трансляцыя вядзецца на сто краін свету...

Мне ўвогуле падабаецца назіраць, як праходзяць галоўныя каталіцкія святы ў розных рэгіёнах. Напрыклад, у сталіцы Балівіі (Паўднёвая Амерыка) моладзь і дзеці, пачынаючы з "тлустага" чацвярга і заканчваючы аўторкам перад Папяльцовай серадой, удзельнічаюць у масавых гульнях з пенай і вадой на плошчы перад базілікай св. Францішка. Пальмавая нядзеля ў гэтай краіне называецца Damingo de Ramos, што ў перакладзе з іспанскай – "Букетная нядзеля". Вернікі робяць вялізныя букеты з кветак, чапляюць да іх пачастункі і нясуць на асвячэнне ў касцёл. На працягу Вялікага тыдня вернікі вырушаюць у пілігрымку з Ла Паза ў Капакабану, ідуць 150 км да мясцовага санктуарыя Маці Божай. Аднак больш за ўсё ў Балівіі мяне ўразіла працэсія, каторая адбываецца ў Вялікую пятніцу. З кожнай парафіі выходзяць людзі і крочаць галоўнай вуліцай горада. Наперадзе нясуць крыж, пасля – драўляную платформу з трунай Хрыста і фігурай Марыі. Затым ідуць біскупы і афіцыйныя асобы. Замыкае шэсце аркестр.

Вельмі дзіўную традыцыю бачыў у Перу (Паўднёвая Амерыка). Там існуе меркаванне: калі Хрыстос быў укрыжаваны, то не бачыў, што адбываецца навокал, таму ў Вялікую Пятніцу ў краіне моцна распаўсюджаныя крадзяжы. Калі, напрыклад, у селяніна ў гэты дзень знікне авечка, то ён і звяртацца нікуды не будзе. Зразумела, шчырыя каталікі не вераць у гэта, займацца падобным не будуць. Аднак, як і ў нас, у Перу шмат ахрышчаных, але не вернікаў-практыкаў.

**Увогуле Вялікая пятніца ў некаторых частках свету – дзень больш статусны, чым урачыстасць Уваскрасення, нават выхадны людзям даюць.**

**– Вы бачыце вельмі шмат невераготных рэчаў, але амаль імі не дзеліцеся: Вашыя акаўнты ў сацсетках абнаўляюцца надта рэдка. Разам з тым працы Вы прысвячаеце менш часу, чым вандроўкам. Які сэнс Вы надаеце вандроўкам?**

– Я шчаслівы ў дарозе. У падарожжах спачатку спалучаў хобі – наведванне футбольных матчаў у розных краінах, і працу – правядзенне экскурсій. Пасля гэта перарасло ў стыль жыцця. Для мяне важна падчас вандровак распавядаць пра Беларусь – займацца асветай. Еўрапейцам гавару пра мову, што мы маем сваю і яна адрозніваецца ад расійскай. Калі застаюся ў кагосьці на начлег, то раблю і частую людзей дранікамі, знаёмлю з беларускай кухняй у цэлым. На афрыканскім кантыненце ці ў Інданэзіі (Азія), дзе зусім мала ведаюць пра Беларусь, выступаю ў школах, дзялюся асноўнай інфармацыяй: распавядаю пра дзесяць тысяч азёраў, пра багны – "лёгкія Еўропы" ⇒



Аляксей у "тлусты" чацвер падчас мыльна-водных гульняў, Балівія



З настаўніцамі ў весцы на Танзаніі пасля лекцыі пра Беларусь



Аляксей у кабіне капітана падчас плавання паміж выспамі Інданэзіі





Аляксей на Галапагоскіх выспах побач з гіганцкай чарапахай (на здымку вышэй) і адзінымі ў свеце марскімі ігуанамі

⇐ – і буслоў. Апошнія, дарэчы, выбіраюць месца, дзе самае чыстае паветра.

Ну і, канешне, сэнс вандровак – пазнаваць свет. Шпацыр уздоўж акіяна ці ў гарах – такога не зробіш дома.

**– А пазнаць сябе ў гэтых падарожжах атрымліваецца?**

– Я пазнаў свае фізічныя магчымасці, некалькі разоў узыходзіў на горы-пяцітысячнікі. З першых вандровак зразумеў, што не такі гасцінны, як, напрыклад, жыхары Сярэдняй Азіі. Выправіўся – пачаў у сябе прымаць больш людзей, сяброў і незнаёмых. Вельмі часта спаў на падлозе, аддаючы лепшае месца гасцям. Пасля стаў заўважаць, што за добрыя справы Бог аддзячвае. Напрыклад, аднойчы мяне запрасілі начаваць у “Marriott” (*міжнародная сетка пяцізоркавых гатэляў* – заўв. аўт), а іншым разам – у гатэль-палац, дзе я меў ванную з камінам у адным пакоі.

Збіраю свае ўражанні і назіранні ў дзённік. Спадзяюся, у будучыні атрымаецца кніга.

**– Калі казаць пра эстэтычны бок сусвету, якое месца самае прыгожае?**

– Аляска! З вышыні адкрываецца від на акіянскі праліў, возера, за ім – яшчэ адно. І горы навокал, а на іх – крыху снегу, а трошкі далей ужо відаць кветкі. Побач ходзіць мядзведзь. Кароткае паўночнае лета…

***Ангеліна Марцішэўская***

# Свята Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста. Тэст.

**Паважаныя чытачы! У чэрвені Касцёл перажывае вельмі важную ўрачыстасць – свята Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста. Таму мы прапануем вам адказаць на некалькі пытанняў, звязаных з гэтым святам.**

**1 На які дзень тыдня традыцыйна прыпадае свята Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста?**



**А.** Чацвер
**Б.** Нядзеля
**В.** гэта рухомае свята, таму можа прыпадаць на любы дзень тыдня

**2 У якім стагоддзі ў Касцёле з'явілася свята Божага Цела?**



**А.** V
**Б.** XVIII
**В.** XIII

**3 Устанаўленню свята Божага Цела паспрыяла адна законніца, каторай у містычнай візіі з'явіўся Езус і паказаў праз пэўны вобраз, як выглядае адсутнасць свята ў гонар Эўхарыстыі ў Літургіі Касцёла. Хто была гэтая законніца?**



**А.** Святая Юліяна з Карнілён
**Б.** Святая Маргарыта Марыя Алякок
**В.** Святая Гертруда

**4 На які перыяд літургічнага года прыпадае свята Божага Цела?**



**А.** На пасхальны перыяд
**Б.** На звычайны перыяд
**В.** На Вялікі пост

**5 Непасрэдным штуршком для ўстанаўлення свята Цела і Крыві Хрыста стаў цуд, які адбыўся ў Больсэне. Што гэта быў за цуд?**



**А.** Яшчэ адна візія, з паўтарэннем слоў Хрыста
**Б.** Прысутныя ўбачылі, як па небе лётае сонца
**В.** Перамяненне кропель віна, пралітых святаром, у сапраўдную чалавечую кроў

**6 Якое набажэнства традыцыйна адбываецца ў свята Божага Цела пасля ўрачыстай св. Імшы?**



**А.** Працэсія
**Б.** Літанія да Найсвяцейшага Сэрца Езуса
**В.** Малітва да Божай міласэрнасці

**7 Чаму свята Божага Цела прыпадае менавіта на чацвер?**



**А.** На ўспамін пра Вялікі чацвер, калі быў установлены сакрамант Эўхарыстыі
**Б.** Каб не перашкаджала нядзельнаму святкаванню ўваскрасення Пана
**В.** Таму што пасля свята Спаслання Духа Святога павінна прайсці 10 дзён

**8 Колькі алтароў праходзяць удзельнікі?**



**А.** 1
**Б.** 3
**В.** 4

**9 Што азначае эўхарыстычная працэсія?**



**А.** Успамін вяртання апосталаў у Ерусалім
**Б.** Гатоўнасць Касцёла ў еднасці публічна сведчыць пра прысутнасць Езуса ў Эўхарыстыі
**В.** Успамін урачыстага ўваходу Езуса ў Ерусалім

**10 Выберыце пачатак казання Езуса, у якім Ён гаворыць пра спажыванне Яго цела**



**А.** “Калі хто хоча ісці за Мною, няхай возьме крыж свой…” (Мк 8:34)
**Б.** “Сапраўды, сапраўды кажу вам: шукаеце Мяне не таму, што бачылі знакі…” (Ян 6:26)
**В.** “Шчаслівыя ўбогія, бо ваша ёсць Валадарства Божае. …” (Лк 6:20)

*Падрыхтавала*
***Laліта Арлоўская***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

## На ліпень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**5 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Аляксандр Сапель SDS** *(Віцебск)*;

**7 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**10 ліпеня** – **імяніны** адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**14 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**15 ліпеня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Параф'янава)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **кс. Уладзімір Грыгор'еў** *(Іспанія)*;

**16 ліпеня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*;

**17 ліпеня** – **імяніны** адзначае **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*;

**20 ліпеня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*, **кс. Ілля Саўчанка MIC** *(Орша)*;

**21 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*, **кс. Аляксандр Сапель SDS** *(Віцебск)*;

**22 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*;

**25 ліпеня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Паставы)*; **імяніны** адзначае **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*;

**28 ліпеня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск)*.

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Сямейны баль у Паставах

**У суботу, напярэдадні ўрачыстасці Спаслання Духа Святога, сем'і з пастаўскіх парафій Святога Антонія Падуанскага і Езуса Міласэрнага зладзілі баль. У ім удзельнічала адзінаццаць сямейных пар.**

Спачатку сем'і сабраліся на святую Імшу, якую узначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Святары разам з вернікамі маліліся аб шчодрых дарах Духа Святога для кожнага, аб узаемаразуменні і еднасці ў сем'ях, краіне, свеце.

Біскуп Алег Буткевіч падкрэсліў, што сямейны баль – гэта ўнікальная падзея. У наш імклівы час муж і жонка звычайна занятыя працай, выхаваннем дзяцей, іншымі справамі і, на жаль, амаль не могуць пабыць разам. А для ўмацавання сям'і вельмі важна шанаваць сямейныя традыцыі. Баль – гэта магчымасць устанаўлення дыялогу паміж мужам і жонкай: у танцы яны аддаюцца адно аднаму, і гэта абуджае пачуцці.

*"Друг друга часто мы не понимаем,*
*Не можем острых обойти углов,*
*Но в танце мы сердца соединяем,*
*И это выше самых важных слов!"*

Меркаванне аўтара гэтых радкоў поўнасцю пацвердзілі ўдзельнікі сямейнага балю – пары з розным сямейным стажам.

Свята працягнулася ў фае раённага Дома культуры. Гучала шляхетная музыка, галантныя кавалеры і прыгожа апранутыя дамы размаўлялі паміж сабой. Вядоўцы балю – Юлія Петухова, Сяргей і Святлана Івановы, Мікалай і Алеся Кісялёвы – прывіталі ганаровых гасцей, удзельнікаў, гледачоў. Грацыёзна, урачыста і велічна першая пара задала тон астатнім. Вытанчанасць рухаў, якія спалучылі у адно цэлае мужа і жонку, трэба было бачыць.

Юрый і Валянціна Бакуновічы ў каторы раз прыехалі сюды з Мінска. У іх ужо дарослыя дзеці і ўнукі, але паважаны ўзрост пары не перашкаджае сумесна праводзіць ім час. Вольга і Уладзімір Бернякі з Нарачы, патанцаваўшы летась разам з пастаўчанамі, не прамінулі гэту падзею і сёлета. Сяргей і Кацярына Чучковы – віцябчане – і таксама пастаянныя ўдзельнікі сямейнага балю. Прызналіся, шкадуючы, што такія мерапрыемствы ў іх абласным цэнтры не арганізуюцца.

Першымі сярод пастаўчан некалькі гадоў таму захапіліся балем Сяргей і Святлана Івановы, пабываўшы на аналагічным у Браславе. Закінулі ідэю сваім знаёмым і знайшлі аднадумцаў. Валанцёры душпастырства сем'яў Віцебскай дыяцэзіі і дабрачыннага фонду "Адкрытыя сэрцы" Ірына і Аляксандр Малочка з Віцебска, якія маюць вопыт арганізацыі такіх баляў, згадзіліся дапамагаць. Урэшце ў 2018 годзе на Пастаўшчыне адбыўся першы баль. Яго зладзілі ў Навасёлкаўскім цэнтры культуры. Наступны правялі ў райцэнтры і прысвяцілі яго 10-годдзю фонду "Адкрытыя сэрцы". Вымушаны перапынак давялося зрабіць праз пандэмію COVID-19. Летась традыцыю аднавілі. Сёлета пастаўчане арганізавалі мерапрыемства самі.

Прыемна, што большасць танцораў рэпрэзентуюць шматдзетныя сем'і (маюць ад трох да шасці дзяцей). Тым не менш знаходзяць час на рэпетыцыі, падрыхтоўку да балю.

Кантрданс змяняў чарльстон, за імі – полька і зноў кантрданс. А чаго вартая мелодыя вальса! Гэты танец выконваюць на выпускных балях, вяселлях, у сельскіх клубах. Яго відаў шмат: іспанскі, аўстрыйскі свінгавы, вальс-бастон, малы фігурны і іншыя. Кожны з іх пары выконвалі рамантычна і элегантна.



Біскуп Алег Буткевіч падзякаваў сем'ям за тую шчырую атмасферу, якую яны стварылі, і ўручыў дыпломы: самай закаханай пары – Сяргею і Кацярыне Чучковым; пары, якая найлепш вальсуе, – Мікалаю і Святлане Ожэль; самаму галантнаму кавалеру – Сяргею Іванову, а таксама дырэктару раённага Дома культуры Але Чарнюк і харэографу Юліі Петуховай за дапамогу ў арганізацыі мерапрыемства.

Доўга гучала ў той вечар музыка, кружыліся закаханыя пары, а на свяце валадарылі пяшчота, радасць, адзінства, шчасце.

***Ганна Анішкевіч***

# Парафіяльны фэст у Новым Пагосце

**4 чэрвеня ва ўрачыстасць Найсвяцейшай Тройцы ў Новым Пагосце адбыўся парафіяльны адпуст. Святую Імшу ўзначаліў пробашч парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне кс. Віктар Сініцкі SCJ, гамілію прамовіў кс. Генадзь Лаўнікові SCJ.**

Парафія Найсвяцейшай Тройцы ў Новым Пагосце мае вельмі багатую гісторыю. Упершыню святыня тут узгадваецца ў фундацыйным дакуменце ад 16 ліпеня 1593 г., у якім сказана, што "касцёл ужо збудаваны". Фундатарам першага драўлянага касцёла, што першапачаткова належыў да парафіі ў Іказні, стаў канцлер ВКЛ Леў Сапега.

Касцёл, які існуе цяпер, быў пабудаваны перад 1766 г. намаганнямі ксяндза Песляка, пробашча з Іказні, а таксама дзякуючы матэрыяльнай дапамозе калятара Станіслава Бужыньскага, смаленскага кашталяна, уладальніка іказненскіх і пагосцкіх земляў. 14 ліпеня 1766 г. біскуп Віленскі Ігнат Якуб Масальскі ўстанавіў у Пагосце самастойную парафію.

У 1845 годзе, як згадваецца, касцёл пачаў разбурацца і патрабаваў значнага рамонту. Ужо праз шэсць гадоў святыню ўмацавалі і пакрылі гонтай, а затым грунтоўна адрэстаўравалі і павялічылі. Гэтая святыня захавалася да нашых дзён.




Пасля арышту савецкімі ўладамі кс. пробашча Юзафа Інгялевіча ў 1949 г. касцёл зачынілі. Спачатку ў ім быў склад збожжа, пасля – спартыўная зала. І толькі ў 1990 г. святыню аддалі вернікам. 15 мая 1990 г. біскуп Эдвард Кісель з Беластока, які нарадзіўся ў в. Юндзялова Пагосцкай парафіі, у прысутнасці кс. біскупа Тадэвуша Кандрусевіча – Адміністратара Касцёла ў Беларусі – і біскупа Эдварда Азароўскага з Беластока ўрачыста асвяціў касцёл.

Сёння парафія ў Новым Пагосце, як і большасць вясковых парафій, паступова змяншаецца. Тым не менш на ўрачыстую святую Імшу а 14-ай гадзіне сабралася значная колькасць парафіянаў. Разумеючы важнасць адпусту, многія вернікі скарысталіся сакрамантам споведзі.




Падчас гаміліі ксёндз Генадзь Лаўніковіч SCJ адзначыў, што таямніца Найсвяцейшай Тройцы – гэта адна з праўдаў веры, якую нам цяжка зразумець. "Найсвяцейшую Тройцу яднае Божая любоў. Бог так палюбіў свет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, але не для таго, каб мы сумавалі і былі прыгнечанымі. Бог – гэта Айцец, Які любіць нас, Які хоча запрасіць нас у таямніцу Святой Тройцы. Ён хоча, каб мы гарнуліся да Яго і жылі ў любові адзін да аднаго". Святар падкрэсліў, што мы павінны памятаць пра Божую прысутнасць у нашым жыцці праз Духа Святога, Які дапамагае нам прыняць таямніцу Найсвяцейшай Тройцы.

Пасля Эўхарыстыі адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і набажэнства да Найсвяцейшай Тройцы. Ушанаванне Святой Тройцы працягнулася Эўхарыстычнай працэсіяй вакол касцёла. Завяршылася ўрачыстасць гімнам "Цябе, Божа, праслаўляем" і благаслаўленнем Найсвяцейшым Сакрамантам.

Напрыканцы свята пробашч парафіі ксёндз Аляксей Асон выказаў усім прысутным удзячнасць за ўдзел у Эўхарыстыі і падрыхтоўку ўрачыстасці. Святар адзначыў: "Мы павінны дзякаваць Богу, што маем святыню і магчымасць прымаць удзел у Эўхарыстыі. Мы таксама павінны ўзгадваць у малітве тых, хто захаваў для нас касцёл і перадаў веру".

***Жанна Закрэўская,***
*kascelmery.by*

# История выздоровления от алкогольной зависимости

**Владимир – человек с непростой историей, который долгое время прибегал к алкоголю как к "лекарству" от его комплексов и внутренних ран. Но вот уже 18 лет он не употребляет спиртное и называет себя выздоравливающим алкоголиком, а его жизнь изменилась невероятным образом.**

– Познакомился с алкоголем я ещё в школе. На тот момент у меня было очень много комплексов, но как обычный подросток я хотел показать себя, мечтал быть впереди всех. До определённого момента это моё желание оставалось скрытым.

В тот день мы с друзьями собрались, и, больше подражая взрослым, выпили вместе бутылку сухого вина. На втором стакане я вдруг почувствовал себя смелее и быстро понял, что это самый простой способ раскрепощения.

Никогда не думал, что стану алкоголиком. В моём понимании алкоголик – это человек, который потерял всё и опустился очень низко, а я таким никогда не буду, думал я. Они просто не умеют пить, а я знаю, как правильно, и это мне будет помогать. Самое интересное, что это мне действительно помогало. Мы шли на танцы, выпивали бутылку на двоих, танцевали, веселились, я приходил домой и ложился спать без проблем. Утром вставал, мылся в душе, и всё было замечательно. Так продолжалось до армии.

Я служил в Афганистане, это был 1980-й год. Находился там полтора года, но и в таких условиях мог достать алкоголь. Там я познакомился ещё и с наркотиком. Это не вызывало у меня трудностей и не приводило к неприятным ситуациям. Но, анализируя сейчас свою способность находить алкоголь даже там, я определённо вижу в этом проблему.

В Афганистане я был дважды ранен, награждён орденом "Красной Звезды", но комплексы никуда не делись. Опять же, они уходили только, когда я употреблял. Мой внутренний мир кипел. Внешне я казался смелым, уверенным, но в глубине был настоящим трусом и не знал, что с этим делать. Меня это сильно задевало. Алкоголь в то время постоянно присутствовал в моей жизни, просто чтобы я мог морально поддерживать себя в форме.

Вскоре я почувствовал вседозволенность. Учитывая заслуги перед Родиной, мои награды и то, что я пошёл служить в пожарную охрану… Десять лет я служил в пожарной части, не прекращая употреблять алкоголь. К счастью, нашёлся начальник, который смог, несмотря на все мои заслуги, сказать мне: "Знаешь, Володя, ты, наверное, хороший парень там, за забором, но нам здесь не нужен". Я был в недоумении. С одной стороны, я видел, что творил, но с другой – не мог понять, почему со мной так обращаются, и грозился, что он ещё обо всём пожалеет.

Это увольнение стало для меня первым звоночком. Я начал понимать: что-то не так. А потом пережил второе увольнение, при котором меня чуть не посадили. У меня был очень своеобразный путь употребления, но в конце я пил уже очень много.

Самое страшное началось на пенсии. Теперь я употреблял не для веселья, но просто чтобы мне стало легче, чтобы немного отвлечься. Без алкоголя я не мог заснуть, а просыпаясь, чувствовал то же самое. В конце это уже был туннель, наполненный моими страхами, в котором я не видел просветов. Тогда я уже чётко понимал, что у меня есть проблема.

В то время в Витебске работал центр для "афганцев". Я туда часто ездил, обещал себе перестать употреблять, но примерно через неделю срывался.

Наверное, я так бы и ушёл из этой жизни, не поняв, что произошло, если бы один раз в этом центре ко мне не пришёл мой "брат-афганец" и не сказал, что у меня проблемы. Он предложил мне сходить в группу АА (анонимных алкоголиков), а я ответил, что у меня всё нормально: могу пить, могу не пить. Но подумал, что у алкоголиков точно будет чем похмелиться, а в тот момент мне было очень плохо, поэтому и согласился.

Когда мы туда пришли, я увидел приличных людей в галстуках и моей первой реакцией было "ну какие они алкоголики, на меня посмотрите". Это был первый раз в моей жизни, когда я честно сказал, что я – алкоголик.

В группе мне никто не говорил про отсутствие силы воли, не предлагал взять себя в руки, не учил, как мне жить. Хотя где-то внутренне я этого ожидал и готовился от всех отбиваться. А они начали говорить о себе. Для меня это было удивительно, но ещё больше я удивился, когда понял, что, говоря о себе, они говорят обо мне.

Так произошла моя первая встреча с АА, и на этом закончилось моё употребление. Это было 18 лет назад, и с тех пор из действующего алкоголика я перешёл в стадию выздоравливающего. Для меня это очень важно, потому что действующий – это тот, кто где-то валяется пьяным, а я уже выздоравливаю и буду выздоравливать до конца жизни. Сначала я приезжал на группу в Витебск на все выходные, а потом решил создать такое же в своём городе.

Но выздоровление далось мне не сразу. Ещё три года я был просто не употребляющим алкоголиком, а всё, что у меня было, все мои привычки (в поведении), принципы и те же комплексы, всё ещё оставались. Если бы не программа 12 шагов, которая предлагает пути для сохранения трезвости, а не только для её обретения, я бы через какое-то время опять сорвался. Бросал я к тому моменту уже много раз, но долго жить таким образом не получалось.

Эти первые три года дались мне очень сложно. Я разошёлся с женой. Когда я пил, она меня постоянно поддерживала, ухаживала за мной, а когда я прекратил употреблять, она сказала мне: "Лучше бы ты пил". Соответственно взаимоотношения у нас больше не получались. Она была хорошим человеком, но, тем не менее, я понял, что не хочу больше употреблять, а если останусь с ней – вернусь к той жизни. Я её оставил и уехал в реабилитационный центр.

Это решение мне далось сложно, в том числе и из-за социального давления. На тот момент у меня уже была внучка, и все говорили: "Ну куда ты, старый, собрался – живи как все". А я не хотел больше жить "как все", я хотел жить счастливо. Тогда я это понял. Потом эти слова стали для меня девизом.

Когда я взял на вооружение 12 шагов, сделал их моим принципом жизни, я понял, что мало их знать и красиво говорить об этом, необходимо прежде всего их применять во всех делах. Такие принципы, как честность, непредубеждённость, готовность, смирение. И процесс выздоровления стал складываться сам по себе.

Постепенно я вдруг почувствовал, что мне уже мало группы АА. На тот момент я уже посетил специализацию по психологии и понял, что мне это очень нравится. Мне предложили поехать в реабилитационный центр в качестве консультанта. Пребывая там, я разрабатывал программу, которая поможет человеку не быть трезвым, а жить потрезвому.

Сейчас я понял: чтобы быть счастливым, мне необходимо не только знать, но и применять эти принципы на практике. Дело всей моей жизни – это Центр помощи зависимым, который мы открыли недавно. Там я использую уже не только 12 шагов, но и психологию, которой обучился, получив докторскую степень.

Всю жизнь я был не тем, кем хотел. Но, пройдя через весь этот сложный путь, я понял, кто я.

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**г. Полоцк**
Группа "Секрет выздоровления"
ул. Держинского 50.
Расписание собраний:
среда 19:00, суббота 19:00
тел. +375 29 7019101

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

## Хвала Хрысту!



*Дасылаем віншаванні і самыя сардэчныя пажаданні нашаму **ксяндзу Яну Пугачову** з юбілейным 50-ым Днём нараджэння (3 чэрвеня)!*

*Паважаны наш ксёндз Ян! Жадаем Вам нястомнай радасці, моцнага здароўя, Божай ласкі на кожны дзень жыцця, шчодрых дароў Святога Духа, Божай міласэрнасці, апекі Найсвяцейшай Маці на ўсіх шляхах!*

*Хай ад Бога Айца Вам здароўе даецца,*
*І, як сэрца Езуса, праменіцца Вашае сэрца!*
*Хай ад Духа Святога даецца Вам мудрасць і сіла,*
*А ад Божае Маці – разважнасць, ласкавасць, цярплівасць!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі капліцы св. Мікалая ў в. Сталіца***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шаноўны **ксёндз Ян Пугачоў**! Сардэчна віншуем Вас з 50-годдзем!*

*Прыміце нашыя самыя цёплыя віншаванні з Днём нараджэння, з юбілеем! Няхай жыццёвы вопыт і мудрасць дапамогуць Вам дасягнуць новых вышыняў!*

*З удзячнасцю мы шчыра жадаем Вам шчодрых Божых ласкаў і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою! Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, хай заўсёды хапае сілы для выканання святарскіх абавязкаў, а побач будуць добразычлівыя людзі, якія заўжды дапамогуць і падтрымаюць!*

*Мы выказваем вялікую падзяку за шчырую малітву, за прапаведаванне Божага слова! Няхай Пан Бог пашле Вам моц, дасць натхненне і цярплівасць! Сардэчна дзякуем Вам за самаахвярную працу ў нашым касцёле!*

***Вернікі парафіі Перамянення Пана ў Германавічах.***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*З вялікай радасцю, павагай і любоўю віншуем нашага паважанага **ксяндза-пробашча Віктара Сініцкага SCJ** з 20-годдзем святарскага пасвячэння (21 чэрвеня).*

*Мы ўдзячныя Пану Богу за дар Вашага жыцця і святарскага пакліканння, за тое, што пашчасціла сустрэцца з такім святаром. Дзякуем Вам, паважаны ксёндз Віктар, за мудрасць і цярплівасць, за дабрыню і чалавечнасць, за самаахвярную працу ў справе аднаўлення нашага касцёла, за тое што, дзякуючы вашай нястомнай святарскай руплівасці, змяняюцца нашы душы, узрастае наша вера.*

*Шчыра жадаем Вам моцнага здароўя, Божага супакою. Няхай Міласэрны Бог благаслаўляе кожную хвіліну Вашага жыцця.*

***Вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Шаркаўшчына)***

## Хвала Хрысту!

*27 чэвеня адзначае дзень Анёла **ксёндз Уладзіслаў Шарковіч**. Прыміце нашыя шчырыя віншаванні! Жадаем Вам Божай ласкі і дароў Духа Святога ў выкананні пастырскага служэння. Жадаем моцнага здароўя, няхай ваш жыццёвы шлях будзе напоўнены радасцю і непагасным аптымізмам. Няхай Маці Божая заўсёды абараняе ад небяспекі і атуляе сваёю бясконцай любоўю. Усяго Вам самага найлепшага!*

***Вернікі парафіі св. Яна Хрысціцела, Опса***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Наш былы пробашч **ксёндз Алег Півавар** 13 чэрвеня адзначае імяніны.*

*Ад усяго сэрца мы віншуем Вас, ксёндз Алег! Жадаем шмат Божай ласкі, сілы, цярплівасці ў Вашай нялёгкай святарскай паслузе, моцнага здароўя, даўгалецця, добразычлівых людзей побач!*

*Няхай Добры Бог, Найсвяцейшая Панна Марыя і Ваш апякун св. Антоній Падуанскі клапоцяцца пра Вас, спадарожнічаюць у штодзённым жыцці, прыносяць радасць, суцяшэнне і цудоўную ўсмешку, дапамагаюць ва ўсіх патрэбах!*

*Мы ўдзячныя Пану Богу за дар Вашага жыцця, шаноўны ксёндз Алег, бо Вы заўжды разумееце і падтрымліваеце нас. Мы заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах!*

*Сардэчна дзякуем Вашым бацькам за выхаванне сыноў-святароў! Няхай Добры Бог адорыць іх усімі патрэбнымі ласкамі! Жадаем ім апекі Маці Божай Нястомнай Дапамогі!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла святога Айца Піа ў Лёзне***

## Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз--пробашч Павел Самсонаў**!*

*Віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, моцнага здароўя, душэўнага супакою і цярплівасці! Хай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць добры плён, а Езус няхай валадарыць у Вашым сэрцы!*

***З павагай, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (г. Паставы)***

## Хвала Хрысту!

*Наш пробашч **кс. Валерый Марціноўскі** 11чэрвеня адзначыў Дзень нараджэння.*

*Паважаны ксёндз Валерый! Ад усяго сэрца віншуем Вас з нагоды 35-годдзя! Шчыра жадаем Вам усяго найлепшага! Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены шчасцем і радасцю, сілай і мудрасцю, каб годна служыць Пану Богу і людзям! Няхай Дух Святы ўмацоўвае Вас неабходнымі дарамі на выбраным шляху, а Маці Божая заўсёды атуляе апекай!*

***З пашанай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску***

## Хвала Хрысту!

*Шаноўныя, дарагія нашы святары **ксёндз Чэслаў Куцмеж і ксёндз Кшыштаф Сілкоўскі**!*

*Вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Паставах віншуюць Вас, ксёндз Чэслаў, з 36-й гадавінай святарскага пасвячэння (17.06.1987 г.) і Вас, ксёндз Кшыштаф, з 41-й гадавінай святарскга пасвячэння (17.06.1982 г.)!*

*Шчыра дзякуем за тое, што абвяшчаеце нам Божае слова, прамаўляеце ўзнёслыя, мудрыя і вельмі патрэбныя нам казанні, удзяляеце святыя сакраманты! Дзякуем вам за ўмацаванне нас у веры і любові да Бога, за вашу мудрасць, цярплівасць, за вашыя чулыя сэрцы!*

*Мы вельмі ўдзячныя вам за тое, што вы абое шмат гадоў таму ахвяравалі сваёй Айчынай і прыехалі да нас, каб служыць Богу і людзям менавіта ў Беларусі. За тое, што мелі шмат цярплівасці пры вывучэнні нашай мовы, нашага менталітэту і нашых звычаяў.*

*Жадаем вам моцнага здароўя, натхнення, поспехаў ва ўсіх справах! Няхай Езус прытуляе вас да свайго Сэрца, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі! А мы вас і надалей будзем падтрымліваць малітвамі!*



Касцёл Святой Тройцы ў Глыбокім –
Нібы Ноеў каўчэг сярод тлуму сучаснага горада.
Касцёл Тройцы Святой – паратунак душы,
Тут пануе спакой, тут малітвы ўзносяцца,
Тут Матуля чакае дзяцей у цішы.
Міласэрнасць Айца грэшнік зведае тут,
Езус Хрыстус сыходзіць для нас на алтар.
Дух Святы суцяшае засмучаных
І рыхтуе для кожнага верніка дар.
Касцёл Тройцы Святой – прыстань душаў здарожаных,
Тых, хто Праўду шукае ў вірлівым жыцці,
Тых, хто крыж свой на плечы прымае,
За Хрыстом каб у вечнасць ісці.

***Алена Пажога***

## Споведзь

Даруй мне, Божа, усе мае правіны,
Я каюся, хай кара не міне.
Мы, людзі, усе Табе павінны
За крыж, цвікі, вянок на галаве.
Прабач мне неабдуманыя словы,
І думкі брыдкія, і гонар мой.
За выгляд мой яскрава-каляровы,
За недавер, адчай і неспакой.

Будую апраўданне на дакоры
За ўсе свае памылкі і грахі.
Не сціплая, не ведаю пакоры,
Прэтэнзій толькі "поўныя мяхі".

Парой, сумленне моцна ўшчувае,
Падказвае і што, і як рабіць.
Ды толькі я не чую, як малая,
І плямаў гэтых мне з душы не змыць.

Я дзякую Табе за ўсё, што маю,
За тое, што трымаеш за руку!
За ўсё, што пражыла і пражываю,
Што яшчэ будзе на маім вяку!

Мая апора і мая надзея,
Я адчуваю часта – зноў і зноў
Твой позірк. І яго я разумею,
Як шчырую бацькоўскую любоў!

## Мне говорили...

Мне говорили, Бога нет...
А я ищу его повсюду:
В глазах людей, в полёте птиц,
В листве, в дорогах без границ,
В траве, подобной изумруду,
И в облаках, что пьют рассвет.



Мне говорили, Бога нет...
А я вхожу под своды храма,
Крещусь смиренно у икон
И чувствую, что рядом Он,
Мои залечивает раны,
Целебный излучая свет.

Я помню, мудрые слова
Бабуля в детстве говорила:
"Бог там, где его сердцем ждут,
Где его заповеди чтут,
Молись, как я тебя учила,
Не слушай, что твердит молва".

Мне говорили, Бога нет...
Да мало ли что говорили?!
Мне столько явит жизнь чудес,
Что были посланы с небес,
Когда другие дверь закрыли,
Чтоб не касаться моих бед.

Мне говорили, Бога нет...
Но у меня есть свой ответ!

***Марина Трушина (г. Поставы)***

# “Не спі! Варушыся! Больш варушняку!

**Сённяшні выпуск нашай моўнай старонкі прысвечаны не зусім звычайнай праблеме. Мы крыху пагаворым пра мэтазгоднасць ужывання ў беларускай мове канструкцый, якія б адпавядалі папулярным, асабліва ў асяроддзі моладзі, рускім выказванням кшталту движуха, движ.**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

Aідэя абмеркавання абазначанай праблемы належыць чытачкам “Каталіцкага Весніка” з Віцебска спадарыням Наталлі К. і Марыне С. Яны ў лісце да аўтара моўнай рубрыкі сярод іншага пішуць: “Хацелася б даведацца, як можна перадаць па-беларуску сэнс, напрыклад, такіх рускіх сказаў: *Началась какая-то движуха…* Ці *Я не люблю сидеть дома. Мне нравится движуха.* Або: *Здесь постоянный движ…* Пагадзіцеся, што ў лексіконе маладых людзей гэтыя словы прысутнічаюць вельмі часта. Але калі мы захочам сказаць па-беларуску, то як гэта магло б быць? Ці па-беларуску нешта падобнае сказаць немагчыма?”

Адразу заўважу, што па-беларуску магчыма сказаць усё! Бо наша мова вельмі багатая і ў поўнай меры забяспечвае нават самыя прыдзірлівыя патрабаванні… І яшчэ хачу падзякаваць нашым шаноўным чытачкам за такую, прызнаюся, нечаканую прапанову. А таксама за ўдумлівасць, скрупулёзнасць і неабыякавасць да нашай мовы! Бо, калі ўдумацца, то насамрэч паўстае слушнае пытанне: а ці можна перадаць па-беларуску сэнс папулярных рускамоўных слэнгавых элементаў, каб таксама была захаваная і экспрэсіўнасць, і семантыка? Безумоўна, можна! Паспрабуем разабрацца.

Сапраўды, канструкцыі са словамі *движуха, движ* надзвычай папулярныя, найперш у маўленні моладзі. Электронны перакладчык “Белазар” у якасці беларускіх адпаведнікаў падае словы *руханіна* і *рух*. І калі першы назоўнік яшчэ мае ў сваёй семантыцы пэўную долю экспрэсіўнасці, то слова *рух* хіба варта разглядаць як стылістычна нейтральнае, што наўрад ці падыходзіць для абазначэння нейкіх эмацыянальна афарбаваных выказванняў. Да таго ж у рэгулярнай моўнай практыцы мы не надта часта сустракаемся з ужываннем названых лексем у адпаведных сітуацыях. Значна больш пашыраны ў беларускамоўнай камунікацыі ў такіх выпадках назоўнік **варушняк.** Так, можам пачуць: *Чаго ты такі сонны? Больш* **варушняку**! Або: *Тут пачынаецца някепскі* **варушняк**, *выходзь і далучайся!* Ці: *Не падабаецца мне такая атмасфера. Хочацца нейкага імпэту,* **варушняку**! Да таго ж і дзеяслоў **варушыцца** ў розных формах выдатна выконвае сваю эмацыянальна-экспрэсіўную функцыю: *Не спі ў шапку,* **варушыся**! Або: **Варушыся**! *Больш жыцця! І ўсё атрымаецца*! Дарэчы, “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” (Т.1, Мінск, 1977) адно са значэнняў дзеяслова *варушыцца* падае менавіта як “займацца чым-небудзь, актыўна дзейнічаць. Ажыўляцца, праяўляць актыўнасць” (с. 466). Праілюструем гэта кантэкстамі з мастацкай літаратуры: *Калі трэба было рабіць што ў полі ці з’ездзіць куды на людзі, то гэтым займаўся бацька: не такі ўжо і стары,* **варушыўся** *яшчэ як мае быць* (Янка Скрыган); *Першы момант анямення прайшоў, і думкі мае пачалі* **варушыцца** (Якуб Колас); *І толькі недзе там, у глыбіні душы, балюча* **варушылася** *ўчорашняя крыўда* (Мікола Гамолка); *Перон* **варушыўся** *нібы мурашнік* (Алена Васілевіч). Як бачым, слоўнік фіксуе дзеяслоў *варушыцца* па сутнасці з тым жа значэннем, з якім ён ужываецца ў сучасным маўленні ў якасці слэнгавага элемента. І на базе гэтага дзеяслова ўтварыўся адметны, характэрыстычны беларускі назоўнік **варушняк**.

Але вернемся да пачатку, да канструкцый, згаданых чытачкамі “Каталіцкага Весніка” спадарынямі Наталляй і Марынай: *Началась какая-то движуха… Я не люблю сидеть дома. Мне нравится движуха. Здесь постоянный движ…* Па-беларуску гэта выглядае адпаведна так: *Пачаўся нейкі* **варушняк**… *Я не люблю сядзець дома. Мне падабаецца* **варушняк**. *Тут пастаянны* **варушняк**. Як бачым, гэта прыгожыя беларускія эмацыйна афарбаваныя сказы, дзе слова **варушняк** выдатна перадае настрой і пачуцці моўніка ў пэўнай канкрэтнай сітуацыі.

Нягледзячы на тое, што згаданы назоўнік з’яўляецца слэнгізмам, ён можа, несумненна, выкарыстоўвацца ў нефармальнай камунікацыі. Больш за тое, можна меркаваць, што яго адметнае беларускае гучанне будзе проста выдатна расквечваць увесь кантэкст.



## “На чэсць Пана”: Эўхарыстычная працэсія ў Віцебску

***Пачатак на стар.1***

***Працяг***

Сваімі сведчаннямі і ўражаннямі пра удзел у працэсіі падзяліліся і вернікі з парафій горада.

Алеся Вайцяховіч, парафія Святога Уладзіслава: “Я рада, што нас так шмат, што мы можам разам ісці, маліцца. Нябачная ласка разліваецца на тых, хто Бога яшчэ не ведае. Але ёсць надзея, што нас, вернікаў, можа стаць яшчэ больш”.

Тацццяна Цыбоўская, парафія Святога Антонія: “Яшчэ падчас імшы я адчула моц Духа Святога. Радасць і супакой напаўнялі маё сэрца. Я спявала і малілася ў гонар Пана!”

Наталля Васількова, парафія Святой Барбары: “У час працэсіі я больш разважала пра веліч Бога. Захаплялася Яго прысутнасцю”.

Таццяна Мілашэвіч, парафія Святога Духа: “Парадавала тое, што так шмат вернікаў-практыкаў сабралася на ўрачыстую імшу. Таксама радасцю напаўнялася сэрца ад супольнай малітвы і спеваў на праслаўленне Бога. Асабліва крануў гімн “Цябе Бога, праслаўляем!”

Іосіф Антонаў, парафія Езуса Міласэрнага: “Самыя добрыя ўражанні ад сённяшняга свята! Шмат малітваў было ўзнесена. Але хочацца, каб больш было людзей і ў звычайную нядзелю. Хочацца, каб людзі прыходзілі і ў будняя дні. Цікавіліся жыццём касцёла, яго патрэбамі, дапамагалі ў працы па добраўпарадкаванні тэрыторыі. Каб старэйшае пакаленне было ўзорам для малодшага ў малітве і працы. Самае галоўнае, каб ланцужок гэты не парваўся”.

## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! **Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

Каб дасланць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. **Дасланць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:**

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

***363*375295105172*2#** — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

***363*375295105172*5#** — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з’яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага апаратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі: ***Газета “Каталіцкі Веснік” вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе: ***Місевіч Віктар Мар’янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

*Рэдакцыя*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Дух Святы, Які нагадвае і ажыўляе Божыя словы



**Пасля ўрачыстасці Спаслання Духа Святога мы вярнуліся ў звычайны літургічны перыяд. Запрашаю, аднак, чытачоў у нашых разважаннях затрымацца над таямніцай дзеяння Святога Духа, Які няспынна сыходзіць і ажыўляе Касцёл Божы таямніцай, katoрую мы ўзгадваем у кожную нядзелю.**

Нядзеля – дзень, калі мы не толькі праслаўляем Бога за перамогу над смерцю ва ўваскрасенні Пана Езуса з памерлых, але і ўспамінаем таксама "дзень нараджэння" Касцёла ў свята Пяцідзясятніцы, праз сем тыдняў пасля Пасхі, калі абяцаны Суцяшальнік сышоў на вучняў. "У першы дзень тыдня, калі Езус Хрыстус уваскрос і спаслаў на апосталаў Духа Святога…" – кажа святар у Эўхарыстычнай малітве перад тым, як прасіць Бога Айца, каб Ён моцаю таго ж Духа асвяціў дары хлеба і віна, перамяняючы іх у Цела і Кроў Хрыста. Менавіта праз дзеянне Духа Святога пасхальная таямніца ў яе жыватворчай моцы дасягае вернікаў Хрыстовых у кожную эпоху і ў кожным месцы.

У Сімвале веры мы вызнаём Духа Святога як Таго, Хто "прамаўляў праз прарокаў". Гэтая фраза нагадвае нам пра тое, што Святы Дух натхніў кнігі, якія мы знаходзім у Біблії: не толькі "прароцкія" тэксты ў вузкім значэнні слова (г.зн. напісаныя пятнаццацію аўтарамі, названымі "прарокамі" ў тытулах адпаведных кніг), але і ўсе іншыя, якія ўвайшлі ў канон Святога Пісання. Дух Святы сваім боскім натхненнем даў зямным аўтарам абвясціць праўду пра Бога і пра шлях збаўлення, якім Пан вядзе чалавечую сям'ю. Той жа Дух праўды "ажыўляе" сваім нябесным подыхам словы, што мы знаходзім на старонках Старога і Новага Запаветаў, робячы іх "жывым і дзейсным" Божым словам (пар. Габр 4, 12). Гэта адбываецца такім чынам, што Дух Святы сваім святлом дазваляе нам бачыць уласнае жыццё і падзеі вакол нас праз прызму Пісанняў як частку дзівоснай гісторыі збаўлення. Слова Божае тады закранае глыбіню нашых сэрцаў, нясе суцяшэнне, умацненне, надзею, мужнасць.

### Што кажа Святое Пісанне пра дзеянне Духа Святога ў нашым жыцці?

"Суцяшальнік, Дух Святы, … навучыць вас усяму і нагадае вам пра ўсё, што Я сказаў вам", – кажа Пан Езус вучням падчас апошняй вячэры (Ян 14, 26). У самых розных жыццёвых сітуацыях Святы Дух нясе нам напамін Добрай Навіны Езуса, каб мы не страцілі арыенціры на нашым шляху ў гэтым свеце. "Напамін" значыць не "дыктоўку з чыстага ліста": нам трэба слухаць, чытаць, старанна засвойваць Божае слова, каб Дух мог на гэтай падставе ў адпаведны момант нагадаць нам евангельскую праўду. Мы ніколі не будзем губляць паставу вучняў, якія гатовыя ўслухоўвацца ў навучанне Нябеснага Настаўніка – Суцяшальніка, дзеянне каторага неаддзельнае ад Уваскрослага Пана. Мы робім гэта перш за ўсё ў малітоўным разважанні, адкрываючы сэрца на дзеянне Духа ў нас, але таксама карыстаючыся пасярэдніцтвам мудрых і святых зямных настаўнікаў, якіх Пан дае свайму Касцёлу.

Езус называе Духа "Суцяшальнікам": Яго прысутнасць сапраўды прыносіць душы суцяшэнне, "прахалоду стомленым, адпачынак у працы, цень у дзень гарачы", як співаем у секвенцыі на ўрачыстасць Пяцідзясятніцы. "Параклет", евангельскі тытул, што перакладаецца як "Суцяшальнік", мае больш багатае значэнне: гэта той, хто падтрымлівае, не пакідае ў адзіноце, узмацняе словам надзеі… На лацінскай мове гэты тытул гучыць як "Advocatus", то бок той, каго клічуць у абарону, хто дапамагае словам супраць абвінаваўцаў. Наш галоўны абвінаваўца – сатана, які выкарыстоўвае чалавечую слабасць і недасканаласць, каб прыніжаць нашу годнасць і пераканаць, што мы нявартыя Божай увагі і міласэрнасці, каб пазбавіць нас надзеі і пакінуць у роспачы. Менавіта супраць яго Дух Святы выступае як магутны Абаронца, нагадваючы нам словы любові і супакою, што Айцец скіраваў да нас праз свайго Сына.

Св. Ігнацый Лаёла ў "Духоўных практыкаваннях" дае больш шырокае азначэнне тэрміна "суцяшэнне", якое мы звязваем з дзеяннем Духа Святога. Ігнацый піша: "Называю суцяшэннем кожнае ўзрастанне надзеі, веры і любові і кожную ўнутраную радасць, што клічуць і вабяць да нябесных рэчаў і да дабра" (ДП, 316). У адрозненне ад спакушальніка, які "ўрываецца" ў верную душу з непакоем, шумам і замяшаннем, Дух дзейнічае з далікатнасцю і лагоднасцю, забіраючы сумневы і перашкоды, дадаючы сілы і ўпэўненасці.

Немагчыма тут ахапіць усё, што слова Божае кажа нам пра дзеянне Святога Духа ў жыцці Хрыстовых вернікаў. Узгадаем яшчэ толькі некалькі асноўных праўдаў, пра якія варта заўсёды памятаць (найбольш зматываваныя чытачы могуць у якасці "самастойнай працы" прачытаць 8-ы раздзел Паслання да Рымлянаў, каб паглыбіць вучэнне св. Паўла пра ролю Духа Святога). Апостал з моцай сцвярджае: "Вы ж не прынялі духа няволі, каб зноў баяцца, але прынялі Духа ўсынаўлення, у якім мы клічам: "Абба, Ойча!" Гэты самы Дух сведчыць духу нашаму, што мы – дзеці Божыя" (Рым 8, 15-16). Дух Святы – "Дух усынаўлення": Ён далікатна, але няспынна нагадвае нам, што Бог – наш сапраўдны Айцец, што "другое" – духоўнае – нараджэнне ад Бога праз ваду і Духа нашмат больш важнае, чым фізічнае прыйсце ў гэты свет. Ніхто і ніколі не можа забраць гэту нашу найвышэйшую годнасць. Святы Хрост пакідае на нашай душы незгладжальную "пячаць": мы "намашчаныя" ("памазаныя" – christoi) Духам Святым назаўсёды, на ўзор Езуса, Памазаніка – Месіі Божага.

"Ці не ведаеце, што вы – святыня Божая і што Божы Дух жыве ў вас?" – піша апостал Павел у іншым лісце (1 Кар 3, 16). Мая душа і маё цела – месца прабывання Святога Духа. Ці ж не дзівосная гэта праўда? Нам варта часцей затрымлівацца над гэтай праўдай, просячы, каб Божае жыццё станавілася ўсё больш відавочным, усё больш інтэнсіўным у нас, ва ўсіх нашых здольнасцях, ва ўсім, што мы робім, гаворым, думаем. У малітве мы можам на некалькі хвілін звярнуць увагу на сваё дыханне: гэты рытм фізічнага жыцця кажа нам пра тое, як подых Духа суправаджае нашае звышнатуральнае жыццё ў Богу. Дух Божы сапраўды напаўняе нас! Ён далікатна чакае і жадае, каб мы ўсё больш адкрываліся на супрацоўніцтва з Яго асвячальнай і дзейснай ласкай.

Езус называе апосталаў сябрамі, сам становячыся найлепшым Сябрам для іх і для кожнага з нас, за каго Ён ахвяраваў сваё жыццё. Паводле аналогіі можам сказаць, што Дух Святы – таксама наш Сябра: Ён заўсёды побач са сваёй гаючай ласкай, са сваёй дзейснай моцай, з парадай у цяжкія моманты, як абаронца супраць злога духа, як крыніца натхнення, радасці, энтузіязму, цярплівасці. Таму будзем звяртацца ў нашым жаданні жыць паўнатой Божага жыцця да нашага Сябра – Суцяшальніка, Які заўсёды нанова адкрывае нам асобу Езуса-Збаўцы і адлюстроўвае любоў Нябеснага Таты.

*а. Віктар Жук SJ*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Тэрэса Лешчык** *(Сарокі)*, **Соф'я Рагіня** *(Сарокі)*, **Ірына Грыцкевіч** *(Лясны)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Галіна Сіманенак** *(Паставы)*, **Люцыя Голуб** *(Дуброўшчына)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Тамара Супко** *(Цешалава)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Леакадзія Тубілевіч** *(Путрышкі)*, **Алена Ванішэўская** *(Пышкі)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Станіслава Варэнік** *(Мінск)*, **Станіслава Кавалёнак** *(Прусы)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Генавефа Бартко** *(Абруб-Ластавіцкі)*, **Марына Гуцалюк** *(Паставы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Тэрэса Балтромун** *(Бастуны)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Мікалай Марунько** *(Новалукомль)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Яўген Папроцкі** *(Ляхавічы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Падалевіч Г.А.** *(Бігосава)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Часлаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Эма Сціпанава** *(Сталіца)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*




# 25-годдзе Новалукомльскай парафіі

**У суботу 22 ліпеня 2023 года САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ на фэст у гонар св. Марыі Магдалены ў Новалукомль.**

**ПАЧАТАК А 15:00.**

**Пасля ўрачыстай адпустовай святай Імшы Вас чакае пачастунак, забавы і святочны канцэрт.**

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл

# ПАЗНАВАЙКА

**Пахвалёны Езус Хрыстус! Дарагі дружа, вітаем цябе ў новым нумары “Пазнавайкі”.**

Зусім нядаўна ў Каталіцкім Касцёле адзначалася прыгожае і крыху незвычайнае свята Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста.

Чаму гэтая ўрачыстасць незвычайная? Бо ў гэты дзень пасля святой Імшы па вуліцах гарадоў і вёсак адбываецца працэсія да чатырох алтароў.

Чатыры алтары сімвалізуюць чатыры бакі свету. З аднаго боку мы публічна аддаем пашану Езусу, укрытаму ў Найсвяцейшым Сакраманце, з іншага – запрашаем Яго таксама ў свой дом, у сваё жыццё. Мы просім аб тым, каб Бог блаславіў нас, каб асвячаў наша жыццё.

## 1 заданне

Каля першага алтара чытаецца ўрывак з Евангелля ад Мацвея (Мц 26: 17-19, 26-29). Прачытай яго і размалюй ілюстрацыю.



## 2 заданне

Каля другога алтара падчас працэсіі Божага Цела чытаецца ўрывак з Евангелля ад Марка (Мк 8: 1-9).

Прачытай яго, успомні, які цуд учыніў Пан Езус і складзі ў кошык толькі тую ежу, якой Ён накарміў галодны натоўп.



## 3 заданне

Каля трэцяга алтара разважаем над Евангеллем ад Лукі (Лк 14: 16-24).

Прачытай гэты ўрывак і адкажы на заданні крыжаванкі.




**Замест шматкроп'я ўстаўце прапушчанае слова**

1. Гаспадар клікаў гасцей на ...
2. І калі настаў час вячэры, паслаў слугу свайго сказаць запрошаным “... , бо ўжо ўсё гатова”.
3. Што пачалі рабіць запрошаныя госці?
4. Першы госць не прыйшоў, таму што купіў ... .
5. Каго купіў другі госць?
6. Трэці госць не прыйшоў, таму што ён ... .
7. Каго загадаў паклікаць на вячэру гаспадар?

## 4 заданне

Каля чацвёртага алтара чытаецца Евангелле паводле Яна (Ян 15: 5-11).

Прачытай гэты ўрывак. З рассыпаных літар складзі словы і пастаў іх на прапушчаныя месцы.

ЯК ______ ПАЛЮБІЎ АЙЦЕЦ,
ТАК І Я ________ ВАС.
__________ Ў МАЁЙ ________.



янме абўплюі
язсатваацейс юбвіло

*Мастачка: **Вольга Будкіна**; ідэя: **Вікторыя Філіпенка***

# Праграма фэсту Будслаў – 2023

Урачыстасці ў Нацыянальным санктуарыі ў год юбілею – 25-годдзя каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай Будслаўскай – па рашэнні беларускага каталіцкага епіскапату пройдуць пад дэвізам “Марыя – Каралева Беларусі”.

**30 чэрвеня, пятніца**

**14.00 – 17.00** — сустрэча і прывітанне пілігрымаў;

**18.00** — святая Імша *(цэлебруе Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч);*

**20.00** — Акафіст у выкананні хору Грэка-Каталіцкай Царквы;

**20.30** — Марыйныя нешпары;

**21.00** — Крыжовы шлях;

**22.30** — тэматычная канферэнцыя “Каранацыя абраза Маці Божай Будслаўскай”;

**23.30** — працэсія са свечкамі і копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай;

**0.00** – святая Імша *(Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі).*

**1 ліпеня, субота**

**2.00** — Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;

**7.00** — Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;

**8.00** — святая Імша *(цэлебруе біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч);*



**9.00** — Фаціміскі ружанец;

**10.00** — сустрэча Папскага легата **арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроцці**, узнагароджанне ўдзельнікаў конкурсу “Марыя ў маім сэрцы”;

**11.00** — святая Імша і Эўхарыстычная працэсія *(цэлебруе Папскі легат арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці).*

На працягу ўсяго фэсту – ушанаванне вернікамі абраза Маці Божай Будслаўскай *(базыліка).*

*Паводле catholic.by*

# Каляндар на ліпень

**1** ліпеня – свята Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай.

**3** ліпеня – свята св. Тамаша, апостала

**4** ліпеня – успамін Святой Альжбеты Партугальскай.

**5** ліпеня – успамін Святога Антонія Марыі Дзаккарыя, святара.

**6** ліпеня – успамін Святой Марыі Гарэцці, панны і мучаніцы.

**11** ліпеня – свята Святога Бэнэдыкта, абата, апекуна Еўропы.

**13** ліпеня – успамін Святога Генрыха.

**14** ліпеня – успамін Святога Каміла Леліскага, святара.

**15** ліпеня – успамін Святога Банавэнтуры, біскупа і доктара Касцёла.

**20** ліпеня – успамін Святога Апалінарыя, біскупа і мучаніка.

**21** ліпеня – успамін Святога Лаўрэнція з Брындызі, святара і доктара Касцёла.

**22** ліпеня – свята Святой Марыі Магдалены.

**23** ліпеня – Сусветны дзень дзядуль, бабуль і пажылых людзей.

**25** ліпеня – свята Святога Якуба, апостала.

**26** ліпеня – успамін Святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі.

**29** ліпеня – успамін Святой Марты, Марыі і Лазара.

## Анонс пілігрымак у Будслаў з Віцебскай дыяцэзіі



Ужо ў хуткім часе распачнуцца пілігрымкі з розных куткоў нашай Бацькаўшчыны ў Будслаў на ўрачыстасці Маці Божай Будслаўскай, якія ў гэтым годзе адбудуцца 30 чэрвеня – 1 ліпеня.

Прапануем расклад пілігрымак пешых і на роварах з Віцебскай дыяцэзіі.

**Браслаў – Будслаў 26-30 чэрвеня**

Уся падрабязная інфармацыя і запіс: +375 29 5770038 – а. Уладзімір Шыдлоўскі SDS.

**Віцебск – Будслаў 24-30 чэрвеня**

Уся падрабязная інфармацыя і запіс: +375 44 773-40-76 – а. Браніслаў Дашкевіч OP.

**Віцебск – Будслаў** (на роварах) **27-30 чэрвеня**

Уся падрабязная інфармацыя і запіс: +375 29 895-76-78 – с. Ёнаша Мровец.

**Глыбокае – Будслаў 28-30 чэрвеня**

Уся падрабязная інфармацыя і запіс: +375 29 274-84-55 – Марына.

**Паставы – Будслаў 28-30 чэрвеня**

Уся падрабязная інфармацыя і запіс: +37533 672-75-36 – кс. Эдуард Сінкевіч SCJ.

**Полацк – Будслаў 26-30 чэрвеня**

Уся падрабязная інфармацыя і запіс: +37529 566-48-33 – кс. Алег Хмылко.

**Росіца – Будслаў 23-30 чэрвеня**

Уся падрабязная інфармацыя і запіс: +375 29 713-02-33 – кс. Аляксандр Жарнасек MIC.

## “Быць у Тваіх руках”. Праграма сямейнай пілігрымкі

Рух сужэнскай духоўнасці Equipes Notre-Dame запрашае хрысціянскія сем'і узяць удзел у пешай сямейнай пілігрымцы ў Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай.

Пілігрымка аднадзённая, выходзіць 30 чэрвеня а 10-й гадзіне з вёскі Пузыры Мядзельскага раёна. Шлях складае каля 15 км.

Праграма пілігрымкі:

**10.00** — рэгістрацыя ўдзельнікаў пілігрымкі;

**11.00** — выхад пілігрымкі; спевы;

**11.50** — канферэнцыя “Цудадзейны медалік”;

**12.30** — Ружанец у інтэнцыях кожнай сям'і;

**13.00** — абед; адпачынак;

**14.30** — спевы;

**15.00** — Вяночак да Божай Міласэрнасці;

**15.20** — сведчанні; спевы;

**16.00** — канферэнцыя “Быць у Тваіх руках”;

**16.30** — Акт прысвячэння сям'і Найсвяцейшай Панне Марыі;

**17.00** — урачысты ўваход у Будслаў пад гімн Маці Божай Magnificat.



Традыцыйна арганізатары пілігрымкі заклікаюць запрасіць у дарогу бабуляў і дзядуляў і звяртаюць увагу на тое, што будзе пастаяннае транспартнае і медыцынскае суправаджэнне.

Запісацца ў пілігрымку можна на сайце **www.end.of.by**

Тэлефон для даведак: +375 (44) 719 82 43 — Аліна і Максім Угорыч

# Фестываль NOVAFEST адбудзецца ва Уселюбе

NOVAFEST-2023

У суботу, 29 ліпеня, у парафіі святога Казіміра ва Уселюбе адбудзецца фестываль-рэкалекцыі NOVAFEST 2023. Тэма сёлетняга фестывалю – “Адно цела і адзін дух” (Эф. 4:4).

Мэтай фестывалю з'яўляецца магчымасць нанова сустрэць Евангелле праз малітву, святыя сакраманты, канферэнцыі і сведчанні людзей, каб адрадзіцца да жыцця, да якога заклікае Хрыстос.

Ідэя сёлетняга фестывалю – адзінства. Бог з'яднаў нас у Хрысце, злучыў у Цела Хрыстова – Касцёл. Кожны з нас мае сваё ўнікальнае месца ў гэтым Целе. Як нам, такім розным, унікальна створаным стаць сапраўдным адзінствам? Што для гэтага трэба? Давайце ўявім, што мы – гэта кавалачкі разламанай Гостыі, а значыць, застаёмся часткамі аднаго хлеба. Што значыць быць гэтымі часткамі ў сучасным свеце?

Арганізатары запрашаюць усіх, хто жадае паглыбіць сваю веру, аднавіць свае адносіны з Богам, адчуць атмасферу адзінства, любові і дома.

**Праграма:**

**10:00** – рэгістрацыя;

**11:00** – Эўхарыстыя;

**13:00** – канферэнцыя;

**14:00** – абед, спевы, малітва, асабісты час;

**15:30** – канферэнцыя;

**16:30** – сведчанні;

**18:30** – Крыжовы шлях прабачэння;

**20:00** – пакланенне Святым Дарам. Ружанец. Малітва аздараўлення;

**22:00** – Бласлаўленне.

Фестываль можна наведаць з дзецьмі. Для іх будуць арганізаваны спецыяльныя пляцоўкі і квэст. Запрашаем дзяцей да 12 гадоў да ўдзелу ў акцыі.

Для ўдзелу ў фестывалі трэба зарэгістравацца анлайн ці па тэлефонах:

**+375 29 8832870** Вікторыя (telegram, viber);

**+375 29 2673028** Аксана (telegram, viber).

Адрас: Касцёл святога Казіміра, вул. Чырвонаармейская 20, аг. Уселюб, Навагрудскі р-н, Гродзенская вобл.

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – А; 2 – В; 3 – А; 4 – Б; 5 – В; 6 – А; 7 – А; 8 –В; 9 – Б; 10 – В

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2877

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 19.06.2023 г. у 8.10

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь